Установа адукацыі
“Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна”

*С.С. Клундук*

# СЛОВА ДА СЛОВА – БУДЗЕ МОВА

## Дыялектны слоўнік в. Фядоры

*Для студэнтаў філалагічнага факультэта*

Брэст
БрДУ імя А.С. Пушкіна
2010

УДК 81' 28=161.3(038)
ББК 81.2Беи-67
К51

*Рэкамендавана рэдакцыйна-выдавецкім саветам установы адукацыі «Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна»*

*Рэцэнзент*
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі
УА "БрДУ імя А.С. Пушкіна"
**Н.Р. Якубук**

**Клундук, С.С.**
К51 Слова да слова – будзе мова : Дыялектны слоўнік в. Фядоры / С.С. Клундук ; Брэсц. дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна. – Брэст : БрДУ, 2010. – 100 с.
ISBN 978-985-473-542-9.

У выданні прадстаўлены звесткі з гісторыі ўзнікнення і развіцця вёскі Фядоры, даецца апісанне фанетыка-граматычных асаблівасцяў гаворкі, прыводзяцца тэксты мясцовай мовы. У аснове даведніка – лексіка-фразеалагічны і мікратапанімічны матэрыял гаворкі (каля 2000 адзінак). Акрамя гэтага, выданне ўключае зафіксаваныя прыказкі, прымаўкі, народныя прыкметы, парады-засцярогі, зычэнні.

Матэрыялы слоўніка могуць быць выкарыстаны на занятках па дыялекталогіі, на спецкурсах і спецсемінарах, пры напісанні курсавых і дыпломных работ, у час працы навукова-даследчых груп.

**УДК 81' 28=161.3(038)**
**ББК 81.2Беи-67**

**ISBN 978-985-473-542-9**

## ПРАДМОВА

У апошнія дзесяць гадоў рускамоўныя элементы непрыкметна замяняюць лексічныя адзінкі вясковай гаворкі. Можна сказаць, вёска русіфікуецца. З сумам заўважаеш, што мова нашых продкаў знікае, прычым знікае даволі-такі інтэнсіўна. Таму паўстала тэрміновая задача сабраць мясцовыя моўныя залацінкі. Так, кафедра гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі ўстановы адукацыі "Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна" працуе над гэтай праблемай – праблемай захавання моўнай спадчыны Брэсцка-Пінскага Палесся. Мяркуецца стварэнне хрэстаматый па матэрыяле (тэксты, лексіка і інш.), зафіксаваным у гаворках кожнага раёна Берасцейшчыны. Таму дадзеная праца падрыхтавана ў адпаведнасці з кафедральнай тэмай.

У выданні прадстаўлены звесткі з гісторыі ўзнікнення і развіцця вёскі Фядоры Столінскага раёна, даецца апісанне фанетыка-граматычных асаблівасцяў гаворкі, прыводзяцца тэксты, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя адметнасці мовы. У аснове даведніка – лексіка-фразеалагічны і мікратапанімічны матэрыял гаворкі (каля 2000 адзінак). Акрамя гэтага, выданне ўключае зафіксаваныя прыказкі, прымаўкі, народныя прыкметы, парады-засцярогі, зычэнні.

Дыялектны слоўнік "Слова да слова – будзе мова" прызначаецца як даведачнае выданне па дыялекталогіі для студэнтаў філалагічнага факультэта, а таксама даследчыкаў-лінгвістаў, выкладчыкаў-філолагаў, настаўнікаў і ўсіх тых, хто цікавіцца скарбамі жывой народнай мовы і неабыякавы да іх лёсу. Матэрыялы даведніка могуць быць выкарыстаны на лекцыйных і практычных занятках па дыялекталогіі, на спецкурсах і спецсемінарах, пры напісанні курсавых і дыпломных работ, падчас працы навукова-даследчых груп, напрыклад, такіх як "Мова Брэсцка-Пінскага Палесся", "Тапанімія Брэстчыны" і інш., а таксама пры падрыхтоўцы да рознага кшталту мерапрыемстваў, накіраваных на вывучэнне, даследаванне роднага краю.

Вёска Фядоры адметная сваёй моваю, паколькі яна ўвабрала элементы як беларускай, так і рускай, украінскай, польскай моў. На жаль, фядорская гаворка, як і іншыя, траціць свае асаблівасці. Таму неабходнасць збору матэрыялу і фіксавання адметнасцяў гаворкі абумоўлена праблемай захавання моўнай спадчыны пакуль што яшчэ жывой дыялектнай мовы, у тым ліку і фядорскай.

У першую чаргу намі зафіксаваны лексіка-фразеалагічныя адзінкі, якія адсутнічаюць у сучасных слоўніках беларускай мовы і адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці гаворкі, а таксама лексемы, адрозныя ад літаратурных адпаведнікаў:

1) Лексічным значэннем (цалкам ці часткова), але аднолькавыя па гучанні і напісанні (*радно* ‘пакрывала’ – літ. *радно* ‘тоўстае палатно; выраб з палатна’, *калюга* ‘лужына’ – літ. *калюга* ‘выбітая коламі яма на дарозе, звычайна з вадой, граззю’, *коцікі* ‘галлё вярбы з суквеццем (коцікамі)’ – літ. *коцік* ‘суквецце з дробных кветачак у некаторых дрэвавых раслін, якое ападае пасля цвіцення’, *панчоха* ‘шкарпэтка’ – літ. *панчоха* ‘выраб машыннага або ручнога вязання, які надзяваецца на нагі і заходзіць за калені’ і інш.).

2) Лексічным значэннем (цалкам ці часткова), часткова гучаннем і напісаннем (*жмында* ‘гаварлівы чалавек’ – літ. *жмінда* ‘скупы чалавек’, *лавка* ‘паласа ворнай зямлі’ – літ. *лаўка* ‘прыстасаванне для сядзення’, *поклад* ‘месца, дзе нясуцца куры’ – *поклад* ‘яйцо або прадмет, падобны да яго, які кладуць там, дзе хочуць, каб несліся куры’ і інш.).

3) Каранёвай марфемай (асновай) (*мушнык* – літ. *гультай, бэрва* – літ. *кладка, гутанка* – літ. *арэлі, заічыты* – літ. *вымазаць, заступ* – літ. *рыдлёўка, лагодкы* – літ. *смакоцці, люхта* – літ. *юшка, чымало* – літ. *многа, заіды* – літ. *герпес, тічка* – літ. *мядзведка, стэчы* – літ. *здатны* і інш.). Гэта мясцовыя назвы агульнавядомых рэчаў, з’яў, уласцівасцяў, дзеянняў.

4) Словаўтваральнай структурай, словаўтваральнымі сродкамі (*бусько* – літ. *бусел, обцэньки* – літ. *абцугі, груба* – літ. *грубка, дулька* – літ. *дуліна, збанок* – літ. *збан, карточка* – літ. *картка, кошыль* – літ. *кош, кром* – літ. *акрамя, кропэц* – літ. *укроп, лінёк* – літ. *лінь, слывка* – літ. *сліва*).

5) Марфалагічнымі прыкметамі (напрыклад, граматычным значэннем роду, ліку і інш.) (*гусэнь* ж. р. – *вусень* м. р., *лёх* м. р. – літ. *лёха* ж. р., *бутэль* м. р. – літ. *бутля* ж. р., *кіля* ж. р. – літ. *кілаграм* м. р., *засіка* ж. р. – літ. *засек* м. р. і інш.). Такая лексіка можа часткова адрозніваацца ад літаратурнай па гучанні і напісанні.

6) Пастаноўкай націску (*пэркаль* – літ. *паркаль, накидка* – літ. *накідка* і інш.).

Да таго ж зафіксавана безэквівалентная лексіка (словы, якія не маюць у літаратурнай мове аднаслоўнага адпаведніка і перадаюцца апісальным спосабам) (*было* – літ. *спінка жалезнага ложка, насіннік* – літ. *стары жоўты агурок, пустак* – літ. *газасілікатны блок* і інш.) і словы, што называюць мясцовыя прадметы, з’явы (мясцовыя назвы мясцовых прадметаў, з’яў) (*бавук* ‘напханы мясам свіны страўнік’, *значнык* ‘прылада працы, з дапамогай якой пазначаюць радкі для пасеву насення’, *кімля* ‘прылада для лоўлі рыбы (сетка, нацягнутая на драўляную, пірамідальнай формы аснову)’ і інш.). Трэба сказаць, што ў даведніку адлюстраваны і новыя мясцовыя словы, якія ўзніклі ў выніку пэўных сацыяльна-эканамічных, культурных пераўтварэнняў апошняга часу (*галывудыты* ‘піць, гуляць, весела адпачываць, адзначаць нейкае свята’ і інш.).

Такім чынам, паколькі адбор лексікі ажыццяўляўся на аснове дыферэнцыяльных прыкмет дыялектнага слова, намі не фіксавалася:

1) Лексіка, якая ў пачатковай форме поўнасцю супадае ў гаворцы і ў літаратурнай беларускай мове (*рука, шыя, куры, качка, голуб, машына, запалка, хата, бульба, мука, цыбуля, газета, трава* і інш.). Трэба адзначыць, што такіх адпаведнікаў у мове вёскі Фядоры вельмі мала.

2) Лексіка, што адлюстроўвае толькі якую-небудзь фанетычную асаблівасць мясцовай гаворкі (па значэнні поўнасцю супадае) (*голова́* 'галава', *жыві́т* 'жывот', *кінь* 'конь', *выдро́* 'вядро', *півэнь* 'певень', *робы́ты* 'рабіць', *сі́но* 'сена', *стил* 'стол', *тыбэ́* 'цябе', *хлів* 'хлеў' і інш.). Між тым трэба заўважыць, што некаторыя моўныя адзінкі, адрозныя ад літаратурных толькі фанемным складам, усё-такі ўключаны ў даведнік (*ї́іжа* – літ. *е́жа* і інш.).

У асобных раздзелах прапануюцца мікратапанімічныя назвы (каля 120 адзінак), а таксама значная нізка ўстойлівых спалучэнняў і словазлучэнняў (каля 300 адзінак), прыказкі, прымаўкі, зычэнні, парады, якія адлюстроўваюць асаблівасці гаворкі, побыту, культуры, традыцый, адметнасці стасункаў карэнных жыхароў названай вёскі, мудрасць палескага народа.

Трэба адзначыць і тое, што ў даведніку паказваецца сучаснае маўленне жыхароў вёскі, якое фарміруецца пад істотным уплывам рускай мовы. Таму ў слоўніку нямала рускамоўных слоў, устойлівых выразаў, якія асвоены, адаптаваны народам і ўжо натуральна гучаць у вуснах людзей.

Большасць жыхароў Фядораў – прыезджыя з іншых куткоў вобласці, рэгіёнаў Беларусі, перасяленцы з розных краёў усяго былога Савецкага Саюза. Зразумела, што гэта адмоўна адбілася на адметнай фядорскай мове, на характары адносінаў, стасункаў, а таксама на асаблівасцях усёй вясковай культуры. Таму зафіксаваная намі лексіка можа рэзка адрознівацца ад той, якою карыстаецца некарэнная частка насельніцтва Фядораў. І гэта вельмі важна ўлічваць пры збіранні матэрыялу з мясцовай гаворкі.

**Афармленне матэрыялу.**

1. Афармленне лексічнага матэрыялу праводзілася ў адпаведнасці з патрабаваннямі да даведнікаў такога тыпу. Між тым намі не зроблены паметы па характарыстыцы ўжывання слова, і толькі ў самых неабходных выпадках такія паметы падаюцца, напрыклад:

**МАТЫРСЬКО́**, ж., пагардл. Маці.

**БУ́БА**, ж. дзіц. Ягады.

2. Значэнне моўнай адзінкі раскрываецца ў кароткай дэфініцыі, дастатковай для разумення самога слова і яго ўжывання.

3. Парадак слоў у прыведзеных фразеалагічных адзінках такі, які пераважае пры іх выкарыстанні ў гаворцы.

4. Націск у слоўніку абазначаецца штрыхом над галоснай, напрыклад, **БАВЎК, БАЛІ́Я, ЛЮ́ХТА.** Аднаскладовыя словы знакам націску не пазначаюцца. Паколькі ў дыялектнай мове літара *ё* можа быць і націскной, і ненаціскной, то ў словах з названай літарай таксама пастаўлены значок націску: **ГАЛЁ́КАТЫ, Ё́РЗАТЫ, Ё́РШЫК**.

5. Фанетыка-марфалагічныя варыянты аднаго і таго ж слова размешчаны ў адным слоўнікавым артыкуле наступным чынам: **НАХОЛЕ́РЫ** і **НАХОЛЕ́РУ,** часц. Навошта, для чаго.

6. Тэксты, а таксама цытаты пададзены спрошчанай транскрыпцыяй, напрыклад: **КОЛХО́ЗНЭ РА́ДІВО.** Людзі, які разносяць плёткі, навіны. *Хіба од колхозного радіва нівошчо схаваеш?*

7. Літарай *и* перадаецца гук, сярэдні паміж *ы* і *і* (верхні пад'ём сярэдне-пярэдні рад) (*стил, вылы́кий, братки́, абцэ́ньки* і інш.)

8. У даведніку прыняты наступныя ўмоўныя скарачэнні слоў, спалучэнняў слоў, словазлучэнняў:

*абразл.* – абразлівае
*аг.* – агульны род
*афіц.* – афіцыйнае
*безас.* – безасабовы
*в.* – вёска
*выкл.* – выклічнік
*выш. ст.* – вышэйшая ступень параўнання
*г.* – год
*г. д.* – гэтак далей
*г. зн.* – гэта значыць
*г. н.* – год нараджэння
*гг.* – гады
*груб.* – грубае
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеясл.* – дзеяслоў
*дзіц.* – дзіцячае
*ж.* – жаночы род
*заг.* – загадны лад
*займ.* -- займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зб.* – зборны назоўнік
*злуч.* – злучнік
*і інш.* – і іншае
*і пад.* – і падобнае
*км* – кіламетр
*ласк.* – ласкальнае
*літ.* – літаратурны
*ліч.* – лічэбнік
*м.* – мужчынскі род
*мадальн. сл.* – мадальнае слова
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*пыт.* – пытальная (часціца)
*наз.* – назоўнік
*неадабр.* – неадабральнае
*незак.* – незакончанае трыванне
*нейтр.* – нейтральнае
*пабочн. сл.* – пабочнае
*пагард.* – пагардлівае
*памянш.* – памяншальнае
*параўн.* – параўнайце
*перан.* – пераноснае значэнне слова
*прым.* – прыметнік
*прыназ.* – прыназоўнік
*прысл.* – прыслоўе
*Р.* – родны
*скл.* – склон
*субст.* – субстантываванае слова
*у знач.* – у значэнні
*у знач. вык.* – у значэнні выказніка
*усеч. ф.* – усечаная форма
*часц.* – часціца

# МАЯ МАЛЕНЬКАЯ РАДЗІМА
## (з гісторыі вёскі Фядоры)

Сярод пінска-столінскіх балотаў, у заходняй частцы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, на рацэ Стубла размешчана кампактная вёска Фядоры. Знаходзіцца яна прыкладна на аднолькавай адлегласці як ад Століна (32 км), так і ад Пінска (31 км), а таксама ад чыгуначных станцый "Пінск" і "Гарынь". Вёска Фядоры – цэнтр сельсавета і сельскагаспадарчага вытворчага комплексу "Фядорскі".

Паходжанне айконіма (назвы вёскі) даволі празрыстае і не патрабуе глыбокага гістарычнага аналізу: старажылы сцвярджаюць, што першым пасяленцам на тутэйшых землях быў Фёдар. З грэцкай мовы імя Фёдар перакладаецца як 'божы дар'. Людзі заўсёды верылі і спадзяваліся, што гэтая зямля стане для іх сапраўдным божым дарам. Аднак гісторыя вёскі, лёс людзей сведчаць зусім пра іншае.

Паводле гістарычных звестак, пісьмовых крыніц, Фядоры заснаваны вельмі даўно: як сяленне ў Трокскім ваяводстве вядома з 15-га стагоддзя, пазней – у Пінскім павеце Берасцейскага ваяводства ВКЛ. Пра гэта нагадваюць ранейшыя знаходкі рознага тыпу прыладаў працы, а таксама час ад часу і сёння знойдзеныя крэмневыя, каменныя, касцяныя фрагменты посуду, стрэлаў, усялякіх іншых рэчаў. Аднак згодна з інфармацыяй аднаго каштоўнага дакумента («Ревизия пущъ и переходовъ звериныхъ въ бывшемъ Великомъ княжестве Литовскомъ, съ присовокуплениях грамотъ и привилегий на входы въ пущи и на земли»), складзенага і датаванага 1559 годам, вёска Фядоры згадваецца ад 6 сакавіка 1524 года. Так, у 1524 годзе каралева Бона пацвердзіла ўладанне роду Вяляцічаў вёскамі Сернікі, Невель, Лосічы, Фядоры. Пасля смерці Яна Вяляціцкага двор па спадчыне перайшоў яго дачцэ Таміле, якая выйшла замуж за Яна Даманавіча. З гэтага часу гаспадарамі стаў род Даманавічаў. Пазней маёнтак перайшоў у каралеўскую ўласнасць. А яшчэ ёсць звесткі і пра тое, што вёска Фядоры калісьці належала памешчыкам Скірмунтам і Гарцінгам.

Між тым існуюць меркаванні, што сапраўднае заснаванне вёскі далёка не супадае з афіцыйна занатаваным у гістарычных крыніцах. Так, некаторыя лічаць, што прыкладны час заснавання Фядораў адносіцца да 18-га стагоддзя. У царкоўных жа дакументах Фядоры ўзгадваюцца ад 1879 года як вёска Радчыцкага праваслаўнага прыхода Пінскага павета Мінскай губерніі. У 1880 годзе налічвалася 116 жыхароў. На пачатку 20-га стагоддзя Фядоры – вёска Вітчаўскай воласці таго ж павета (102 двары, каля 740 жыхароў).

Першапачаткова вёска ўяўляла сабою невялікае пасяленне, якое складалася з 25–30 двароў і было агароджана з двух бакоў. Хаты драўляныя, зрубленыя ў вугал. Падлога ў дамах адсутнічала, печы без

дымаходаў, вокны былі маленькія, спалі на дошках. Вядома, што жыхары займаліся земляробствам, аднак зямлі ўтрымлівалі вельмі мала. У сувязі з вялікай забалочанасцю мясцовасці палі былі малыя, да таго ж неўрадлівыя. Непраходныя лясы займалі большую частку зямлі. Старажылы расказвалі, што нават дзяўчаты з іншых вёсак не ішлі замуж у бедную малазямельную вёсачку Фядоры. Праўда, пазней становішча людзей палепшылася, але толькі з купляй у Радзівілаў сенакосаў Стыкава і Любара.

Зямлю апрацоўвалі сохамі, у якія запрагалі валоў. Пазней з'явіўся драўляны плуг з калёсікам, а пасля, прыкладна ў 1910 годзе, пачалі карыстацца жалезным плугам, што насіў назву "казачок". Апраналіся людзі ў адзежу, зробленую са льну ручным спосабам. Усю зіму жанчыны сядзелі за калаўротам і пралі лён, а потым ткалі. Былі ў вёсцы і кустары-рамеснікі, якія выраблялі колы, сані, вёслы, лодкі, граблі. Свае вырабы яны прадавалі на кірмашах Століна і Пінска. Да гарадоў дабіраліся па-рознаму, хто як: хто пешшу, а хто на кані. На гэта трацілася два-тры дні. Яшчэ жыхары займаліся сплаўным, рыбалоўным і іншымі промысламі. Культурныя месцы адпачынку, а таксама школа ў вёсцы адсутнічалі. Ніхто не вучыўся, была суцэльная непісьменнасць.

Пазней федарцы прымалі ўдзел у грамадзянскай вайне, і многія з іх загінулі. У 1921–1939 гадах вёска аказалася ў складзе Польшчы. На 30-га верасня 1921 года Фядоры былі ў Радчыцкай гміне Пінскага павета Палескага ваяводства (129 двароў, каля 800 жыхароў, у асноўным беларусы). З 1923 года – у складзе Столінскага павета Палескага ваяводства: спачатку Фядоры ўваходзілі таксама ў Радчыцкую гміну, а пасля яе скасавання (1928 год) – у Плотніцкую. У гэты час на тэрыторыі Фядораў была толькі адна пачатковая школа. Навучанне ў ёй вялося выключна на польскай мове, што выклікала значныя цяжкасці для мясцовых дзяцей. У школе працавалі два настаўнікі польскага паходжання. Скончыўшы гэтую школу, дзеці не мелі магчымасці працягваць сваё навучанне.

У 30-я гады 20-га стагоддзя сенакосы Стыкава, Любара і іншыя сталі месцам жыхарства перасяленцаў з Фядораў: беднасць людзей вымушала адасабляцца. Такім чынам, у перадваенны час у выніку вялікага перасялення (з паўтысячы (539) двароў перасялілася каля чатырохсот (443 двары)) утварылася шэраг дробных хутароў: Красны астроў, Шурка, Кроватка, Любора, Стубскэ, Бірок, Дрытышын і інш.

Цяпер ад гэтых хутароў амаль што нічога не засталося: усеагульная меліярацыя знішчыла ўсю гісторыю… А старажылы адыходзяць у іншае жыццё, і толькі зрэдку, едучы на бульбу, пачуеш ад сівой бабулі: "Во, тутыка колысь сыдів Васыль Тырэнтів...", і ўбачыш старэнькую, адзінокую, ужо дзікую, сліву ці яблыньку. І думаеш, колькі згадак і шчымлівых успамінаў прыходзіць у такія хвіліны да бабулек, а ты спрабуеш уявіць тое жыццё – і не можаш. Крыўдна, сорамна… і шкада.

З 1939 года Фядоры ў складзе БССР. Перад Вялікай Айчыннай вайной у вёсцы налічвалася 266 двароў, 1205 жыхароў (параўн.: сёння – каля 420 двароў, прыкладна 1200 жыхароў). З ліпеня 1941 года да амаль што жніўня 1944 года Фядоры акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Падчас гэтага прыкладна палова двароў знішчана. У Вялікую Айчынную вайну каля 200 чалавек, малых і старых, пагналі ў Германію. Многія аднавяскоўцы партызанілі, ваявалі на фронце. Дадому вярнуліся далёка не ўсе. За мужнасць і смеласць 72 воіны-вяскоўцы ўзнагароджаны медалямі Савецкага Саюза, ордэнам Чырвонай Зоркі, медалём "За адвагу". Ды і пад Фядорамі загінула нямала салдатаў, а сама вёска была амаль што ўся спалена. Людзі жылі ў зямлянках... Яшчэ 20–25 гадоў таму пра гэта ведалі і памяталі ўсе, ад малога да вялікага, ведалі ўсе прозвішчы загінутых пры вызваленні вёскі (146 чалавек), што выбіты на памятнай пліце помніка "Ніхто не забыты, і нішто не забыта" (помнік устаноўлены ў 1971 годзе). Тады вяскоўцы з гонарам прымалі гасцей з усяго свету, а лепшыя школьнікі праводзілі ў музеі баявой славы 212 Крычаўскай ордэнаў Леніна і Суворава Чырвонаznаменнай імя Кутузава дывізіі (9-ы стралковы корпус 61-й арміі 1-га Беларускага фронту) экскурсіі для ветэранаў, родзічаў загінутых, для ўсіх гасцей. На жаль, ветэраны адыходзяць, памяць сціраецца, а пра перажытае нашымі продкамі цяпер нагадваюць толькі зрэдчас знойдзеныя ў лесе акопы, якія за 60 гадоў усё-такі не сцёртыя зямлёю і нагамі чалавека.

27 ліпеня 1944 года Фядоры вызвалены Савецкай Арміяй ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У гэты час Фядоры ўжо былі цэнтрам сельскага савета Столінскага раёна Пінскай вобласці (з 12 кастрычніка 1940 года). А ў 1949 годзе прынята рашэнне аб'яднацца ў калектыўную гаспадарку імя Шчарбакова; пазней – саўгас "Беражцы", потым калгас "Прагрэс", цяпер аграгарадок – СВК "Фядорскі".

...Яшчэ два дзесяткі гадоў таму назад тут была малюсенечкая вёсачка, якая займала месца ўсяго толькі з кулачок. Але тады яна жыла сваёй адметнай культурай, побытам, сваімі традыцыямі, мела свой нораў. Сёння ж тут налічваецца больш за тысячу жыхароў, амаль столькі ж, як было да другой сусветнай вайны. Аднак мая маленькая радзіма расце і лічыцца адной з вялікіх вёсак Столінскага раёна.

Цяпер на тэрыторыі Фядораў размешчана школа на 300 месцаў, дзіцячы садок-яслі на 140 месцаў, урачэбная амбулаторыя на 100 наведванняў у змену, працуе некалькі крамаў, кафэ, цэнтральны сельскі Дом культуры, бібліятэка, спартзала, аддзяленне сувязі, АТС, аддзел "Беларусбанка", сучасная лазня, рамонтныя майстэрні і іншыя аб'екты інфраструктуры. Праз Фядоры праходзіць транспартны шлях на Украіну (Роўна, Сарны, Кіеў), на Расію. Адсюль можна трапіць у нашу сталіцу, у Слуцк і Салігорск, у Гародню і Слонім, у Брэст і Варшаву, у Бярозу і

Баранавічы, а таксама ў многія іншыя мясціны. На заходняй ускраіне вёскі размешчаны археалагічны помнік – паселішча, раскопкі якога, на жаль, не праводзіліся. Па веравызнанні асноўная маса насельніцтва – праваслаўныя. Аднак у вёсцы афіцыйна дзейнічаюць дзве рэлігійныя суполкі: суполка адвентыстаў сёмага дня, якая была створана яшчэ ў 1925 годзе (мае свой устаў і малітоўны дом); суполка хрысціянаў веры евангельскай (зарэгістравана ў 1996 годзе, мае малітоўны дом).

Сёння Фядорам ёсць чым ганарыцца. Да таго ж тут жывуць вядомыя ў раёне працаўнікі, майстры, удзельнікі мастацкай самадзейнасці...

Вёску з упэўненасцю можна назваць аграгарадком, бо Фядоры жывуць і нараджаюцца, і зусім не старэюць. Толькі адзіная рэчанька Стубла згасае, аджывае свой век. У дзяцінстве (яшчэ ў васьмідзесятыя) мы не раз плавалі па ёй ў лодцы, купаліся, лавілі печкуроў і шыцікаў ды проста з задавальненнем брадзілі на мялі. Цяпер жа толькі гусі, качкі купаюцца і бродзяць па Стубле, бо па нашай віне яна ператварылася амаль што ў крынічку, ці ў Канаву, як называюць рэчку вяскоўцы...

А яшчэ: гісторыя вёскі, яе культура, традыцыі не забудуцца, не згубяцца ў імклівым бегу сучаснасці, паколькі жывуць у адметных мясцовых найменнях, у народных выслоўях, у фразеалагічным і лексічным багацці гаворкі.

## ФАНЕТЫКА-ГРАМАТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРКІ

Мясцовыя назвы вёскі Фядоры: *Фыдо́ры* (*Хвыдо́ры*); мясцовыя назвы жыхароў: *фыдорцы́* (*хвыдорцы́* (*-ці́*)); *фыдорэ́ц* (*хвыдорэ́ц*), *фаді́рэц* (*хваді́рэц*); *фаді́рка* (*хваді́рка*).

Фядорскую гаворку характарызуе і адрознівае ад іншых комплекс моўных сродкаў, розных па сваёй значнасці, захаванасці і пашырэнні. Галоўным чынам гэта адметнасці фанетыкі і граматычнага ладу. Так, гаворка вёскі Фядоры характарызуецца пэўнымі фанетычнымі асаблівасцямі ў сістэме вакалізму і кансанантызму.

**Вакалізм.** Самымі вызначальнымі адметнасцямі вакалізму даследуемай гаворкі з'яўляюцца:

1. Вымаўленне ***і*** ў адпаведнасці з гістарычным націскным ***о*** ў новых закрытых складах (*гній, дрі́бны, доріжка, жыві́т, кіт, ліжок, сіль* і інш.). Таксама ***і*** вымаўляецца на месцы гістрычнага ***ѣ*** (*бі́гты, ві́тёр, ві́чно, лі́гты, ліс, пі́сня, подпі́чок, сніг, сі́но, хоті́ты* і інш.). У навуковай літаратуры гэтая з'ява называецца ікавізмам.

2. Захаванне ў перад- і паслянаціскных складах пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных гістарычнага ***о*** (так званае поўнае оканне) (*воро́та, голова́, го́род, добро́, золоты́й, коро́ва, лі́то, молоко́, робы́ты, ско́ро, хоро́шы, ходы́ты, чолові́к* і інш.).

3. Вымаўленне ***ы*** на месцы гістарычных ***е*** і ***ѣ*** ў пераднаціскным складзе пасля губных зычных і спрадвечных ***д, т, з, с, н*** (*выро́вка, выдо́мы, выдро́, вызты́, высло́, вырба́, мынэ́, мышо́к, сыло́, тыпэ́ра* і інш.), а таксама замест гістарычнага ***і*** пасля губных і пярэднеязычных, якія ў фядорскай гаворцы ацвярдзелі (*зыма́, косы́ты, мыну́ты, мы́ска, цвысты́* і інш.).

4. Вымаўленне ***э*** на месцы гістарычных ***ь, е*** (*вэ́льмы, далэ́ко, тэ́мно, лэ́гко, вэ́сны, тэ́рка, тэсть* і інш.).

5. Вымаўленне ***э*** ў адпаведнасці з гістарычнымі ***ь, е, ѣ*** ў паслянаціскных складах назоўнікаў назоўнага склону адзіночнага ліку (*гы́бэль, го́сэнь, гу́сэнь, па́лэц, ка́мэнь* і інш.).

**Кансанантызм.** Самымі вызначальнымі асаблівасцямі кансанантызму гаворкі вёскі Фядоры з'яўляюцца:

1. Пераважная адсутнасць дзекання і цекання. Парнымі мяккімі да зычных ***д, т*** выступаюць ***д', т'*** (*дя́дько, дя́дына, ті́тка, ті́льки* і інш.). Часцей замест ***дз'*** вымаўляецца ***д'*** або ***д*** (*дя́лка, двэ́ры, дэ́нь* і інш.); замест ***ц'*** вымаўляецца ***т'*** або ***т*** (*тынё́к, тыпэ́ра, чытвэ́р, пры́хаты, тылю́к* і інш.), аднак у некаторых выпадках можа вымаўляцца ***ц'*** (*ко́цікі, ці́вка, цю́цік*). Гістарычны ***ц'*** не захаваў мяккасці, пераважна ацвярдзеў (*молоды́ца, рукавы́ца, па́льцы*), але *ці́лый, на коньці́, на рыці́* і інш.

2. Наяўнасць у націскных складах гістарычнага мяккага ***р'*** і зрэдку ***ч'*** (*рі́заты, гріх, скорі́й, хучі́й* і інш.).

3. Наяўнасць прыстаўных зычных у 3-й асобе асабова-ўказальных займеннікаў (*він, вона, воно, воны*); спарадычная наяўнасць ***в, г*** перад націскнымі ***о, у, э*** (*гокна, гулыца, гостры, гэты, госэнь, гозыро, гобраз* і *образ, гэньдэ* і *эньдэ, вухо* і *ухо* і інш.). Гук *г* можа прыстаўляцца і перад галоснымі ***а*** і ***ы*** (*ганyча, гыньчы, гыняк*).

4. Пераважнае захаванне цвёрдых *г, к, х* перад гістарычным ***ы*** (*скынуты, гыдко, гыньчы, гычка, гэгнуты, згынуты, хылэнько* і інш.), аднак перад ***і***, які ўзнік з гістарычнага ***о***, у новых закрытых складах ***г, к, х*** часцей мяккія (*кіт, кішка, тхір, гірка, гірко* і інш.). Нярэдка пасля ***г, к, х***, асабліва пасля ***к***, вымаўляецца гук ***и***, сярэдні паміж ***ы*** і ***і***, г. зн. верхняга пад'ёму сярэдне-пярэдняга рада (*могылки, сотки, хвойки*).

5. Зычны ***в***, які паходзіць з гістарычных ***в, л***, захоўваецца (*вів, ходыв, знайшов, був, надумав, в лісы* і інш.).

6. Вымаўленне ў суфіксе ***ск*** цвёрдага ***с***, а таксама спарадычна – мяккага ***с'*** (*зовкыньскэ, колодэньскэ, у Пыньску* і *в Пыньську* і інш.).

Спецыфічным адрозненнем вывучаемай гаворкі трэба лічыць захаванне ў многіх адзінках звонкіх зычных у канцавым становішчы і ў сярэдзіне слова перад глухімі (*кныжка, зуб, віз, гобраз, заід*). Характарызуецца мова і выкарыстаннем у некаторых словах эпентычных ***л', j (й), в*** (*роблять, сплять, пом'йяты, радіво*), а таксама ўжываннем гука ***и***, сярэдняга паміж ***ы*** і ***і*** (верхні пад'ём сярэдне-пярэдні рад) (*настильнік, плит, стил* і інш.), наяўнасцю цвёрдага зычнага *л* перад гістарычнымі ***е, і*** (*колыся, полэ, лыты, глысты* і інш.) і іншымі фанетычнымі адметнасцямі.

**Марфалагічныя асаблівасці.** Марфалагічныя дыялектныя адрозненні заўважаны пераважна ў выкарыстанні канчаткаў, а таксама ва ўтварэнні слоў і словаформаў.

1. Неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне адзіночнага ліку на ўзор адушаўлёных маюць форму роднага склону (*закрый рота, прынысы цэбра, возьмы батуга, оддай значныка*).

2. Дадзенай гаворцы ўласціва клічная форма назоўнікаў, у прыватнасці, мужчынскага роду на *-о, -у, -э, -ё* (*батько, діду, сыну, сусіду, чоловічэ, Вітё* і інш.), жаночага роду на *-о, -ё* (*мамо, бабо, Стэпо, Алесё, Валё, Ганё, Надё* і інш.).

3. Назоўнікам жаночага роду з канчаткам ***-а*** першага тыпу скланення ў родным склоне множнага ліку характэрны канчатак ***-эй*** (*ногэй, рукэй, головэй, бабэй, дорогэй, косэй, бульбэй, канавэй* і інш.).

4. У даследуемай гаворцы ў назоўніках мужчынскага роду другога тыпу скланення меснага склону адзіночнага ліку адсутнічае гістарычнае чаргаванне *г//з', х//с'* (*бэрог – бэрогу, вэрх – вэрху, ночліг – ночлігу, плуг – плугу, горіх – горіху* і інш.).

5. Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду з асновай на зацвярдзелы зычны другога тыпу скланення ў месным склоне адзіночнага

ліку зафіксаваны з канчаткам *-і*, нярэдка ўжываецца варыянтны канчатак *-у* (*в дворі, на коньці, товкачі, трактору, цэбрі* і *цэбру, скопці* і *скопцу, стэжарі* і *стэжару* і інш.).

6. Адушаўлёныя назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот, утвараюцца з дапамогай суфікса ***-ук (-юк)*** і скланяюцца як назоўнікі мужчынскага роду з асновай на ***-к*** (*гусюк, жырэбюк, качук, коцюк, поросюк, тылюк, цыплюк, шчынюк, ягнюк*).

7. У прыметніках і займенніках жаночага роду адзіночнага ліку назоўнага склону адзначаны паралельныя формы са сцягнутымі аднаскладовымі і поўнымі двухскладовымі націскнымі/ненаціскнымі канчаткамі ***-а, -ая*** (*молода* і *молодая, богата* і *богатая, бідна* і *бідная, ніяка* і *ніякая* і інш.).

8. Прыметнікі і займеннікі назоўнага склону мужчынскага роду адзіночнага ліку выкарыстоўваюцца з паралельнымі канчаткамі ***-ы*** і ***-ый*** (*зэлэны* і *зэлэный, тэмны* і *тэмный, хорошы* і *хороший, гыньчы* і *гыньчый, хорізны* і *хорізный* і інш.).

9. У месным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, займеннікаў, парадкавых лічэбнікаў мужчынскага і ніякага роду пад уплывам давальнага склону ўжываецца канчатак ***-ому*** (*на другому боку, в гэтому хліві, на вылыкому полю, в тому лісы* і інш.).

10. Форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараецца з дапамогай суфіксаў ***-ш-, -іш-, -ійш-, -ч-*** (*молыдшый, старійшый, богатішый, багаччый, вышчый, луччый, ныжчый, хорішчый, хушчый*).

11. У інфінітыўнай форме дзеясловаў выкарыстоўваецца суфікс ***-ты*** (*гыдыты, гоцаты, збэйдаты, розбэсьтьваты, допэтрыты, пырыпэрты* і інш.).

12. Разам са складанай формай будучага часу тыпу *буду робыты, будэ робыты, буду казаты, будэм казаты, будэм сікты* можа ўжывацца злітная форма (*робытыму, робытэмэм (-о), казатыму, казатымэм (-о), сіктэму, сіктэмэм (-о), ходытыму, ходытымэм (-о)* і інш.).

13. Зваротныя формы дзеясловаў у асноўным рэалізуюцца ў даследуемай гаворцы з дапамогай постфіксаў ***-са, -со*** (*кусатыса, кусавса, кусаласа, кусалосо, кусалыса, пульхатыса, пульхавса, пульхаласа, пульхалосо, пульхалыса* і інш.).

14. Да формаў 2-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў загаднага ладу можа далучацца часціца ***но, нно,*** якая змяншае катэгарычнасць загаду, надае адценне таварыскасці (*возьмыно, ходыно, кіньнно, поможынно*).

Такім чынам, як паказваюць фанетыка-граматычныя асаблівасці мовы, гаворка вёскі з'яўляецца спецыфічнай, адметнай з'явай у сістэме дыялектаў беларускай літаратурнай мовы і адносіцца да групы брэсцка-пінскіх гаворак усходнезагародскай зоны.

Мова вёскі Фядоры вызначаецца і разнастайным, багатым паводле паходжання, значэння і словаўтварэння лексічным складам.

## ТЭКСТЫ ГАВОРКІ

*У войну мы жылы на хуторы Дрытыішыну. Батько твій був іщчэ малэнькі, до года, на руках. От прыйшлы раз до нас партызаны пойісты. А тут глянь у гокно: німцы ідуть до хаты. Партызаны выскочылы з хаты – і навтёкы, ох, і далы воны дёру. Алэ ж одын зляку побіг прамо по дорозы. Його німцы і застрэлылы. Посля прыйшлы воны (німцы) в хату і на мынэ кажуть: "Матко, матко...". Я думала, шо опошні конэц будэ і мні, і батьку твойму. Алэ ж німцы ныц ны зробылы. Мусытька, людямы булы...*

(Запісана са слоў Пераходзькі Марыі Восіпаўны (1901 г. н.))

*На Вылыконне трэба, шо б всі з'іжжалыса дохаты. В гэты дэнь у нас рано всі встають. Вся сым'я ставыть йіду, садыцца за стил. Помоляцца. Пэршэ, што трэба з'йісты – гэто посвятянэ яйцэ. А потомыка йідять всэ остатне. Як сым'я поснідае, то можна йты в госты. Бало наложым повныі карманы яйцыв і ідэмо на сыло. З кім сустрінэсса – з тым і б'есса яйцамы. Як твое яйцэ побылы, то ты оддаеш його тому, хто побыв твое яйцэ. Той мусыть йісты його. Бувае назбыраеш побытых яйцыв, шо ны знаеш, шо з імы робыты, і йісты ны можэш.*

*Як у хаты в гэтому году був покойнык, то яйца ны красять. От можна зварыты іх в молодому жыту, шо б трошкы позылынілы.*

*На другый дэнь Вылыконня у нас ідуть на моглыца провідаты своякі́в, помянуты іх. Мусово трэба взяты цвыты чы выночка, лэнточку, рушныка, йіды со стола: мяса, яйца, хліба пэчаного – і занысты на моглыца. Йіду покласты на могылкі, выночка, лэнточку повісыты. Колыся старым бабам вішалы тканого чы вышытого рушныка, хвартуха. Тыпэрыка вжэ рушныкы, хвартухы ныхто ны вішае.*

(Запісана са слоў Пачуйкі Надзеі Дзмітрыеўны (1949 г. н.))

*От ніколы пышком ходылы по ягоды аж у Морочню, гэто ж дэ в чорта, мо кіломэтрів пытнаццать, аж під Украіну. Ранэнько встанэш, мо в чытыры ранку, як іщэ ны розвідняе, да як доплытэсса, то вжэ і ягоды збыраты ны мыло. Воду пылы з болота: хусткою надавыш на купыну, появыцца вода, пропустыш іі проз хустку, нагынаесса і п'еш. І ныц ны було. А тыпэр з колодеза ны можна воду пыты.*

*Чорныі ягоды носылы, сушылы. Варэнне робылы, а тыпэр ныхто іх ны сушыть, а варэнне і блызко ныяка собака ны йість. Тыпэрыка давай одныі лагодкы, смакотті. Ну, мо шчэ з обрыкосыв, пэрсікив нішо зроблять: того ж варэння, компоту...*

(Запісана са слоў Мельніковіч Валянціны Кірылаўны (1934 г. н.))

## МІКРАТАПОНІМЫ

**БАМ** *м.* Часовая палявая ферма ў летні перыяд, якая знаходзіцца далёка ад вёскі. *Сыну, поідэм на Бам разом, поможэш корів доіты.*

**БА́БЫНА ГОРА́.** Узвышанае месца ў Нячатаўскім лесе, а таксама частка лесу, які знаходзіцца на гары і вакол яе. Паводле мясцовай легенды, на гары раней жыла злая баба-вядзьмарка. *Пойшлы до Бабынэй горы, там богато ягід назбыраем, і далэко ны одходь, бо баба выскочыть і соплямы тыбэ вэльмо обмажэ.*

**БІР** *м.* Вялікі змешаны лес, які знаходзіцца на памежжы Беларусі і Украіны. *В Бір по козляки ходять, по білыі грыбы.*

**БІ́ЛАЯ** *ж.* Поле на месцы былога хутара. Магчыма, назва звязана з колерам зямлі (пясчаная, светлая). *На Білэй богато кому отбылы соткы.*

**БІ́РКА** *ж.* Частка лесу на месцы былога хутара. *Думаю, шо трэба з'іздыты на Бірку, хоть гэто вэльмы ж далэко.*

**БІ́РЫК** і **БІ́РЫЧ** *м.* Поле, што знаходзіцца за хутарам селяніна Бірыка. *Сразу за Бірычом кукуруза ростэ, а потом – Яныків ліс.*

**БОЛО́ТО** *н.* Балота Марочна, якое знаходзіцца на памежжы Беларусі і Украіны (в. Нячатава, в. Гарадная, в. Калоднае). *Глянь, воны знов швэндалы в Болото по клюкву.*

**БОЛО́ТО** *н.* Частка вёскі, якая знаходзіцца ў нізкім месцы і аб'яднаная вуліцай "Балотняя". *На Болоты завсюды ны пройты ны проіхаты, гразь, ямкы.*

**БОЛЫ́ЦЦЭ** *н.* Малое балота, прайшоўшы якое, можна трапіць у вялікае балота, у Марочню. *Мы всэ врэмя гэцькалы в Болыццэ: тама вылыка клюква.*

**БЫ́БКІВ САДО́К.** Былы хутар, які належаў селяніну па прозвішчы Быбко; цяпер поле з садам. *Мы часто ідэм у ліс коло Быбкового садка.*

**БЭРЭ́ЗНЭЕ** *н.* Былы хутар, цяпер сенажаць разам з дарогамі, канавамі, паша, поле. *Гоньдіка богато було хуторів, і Бэрэзнэе, і Любора, і Дрытышынэ.*

**ВАЛЫ́** *мн.* Поле на месцы валоў, утвораных шляхам сцягвання карчоў, дрэў падчас меліярацыі. *Малыны на тых Валах морэ було, а тыпэр там – однэ полэ, ягоды ныма дэ збыраты.*

**ВОРО́БЫНО** *н.* Поле на месцы былога хутара. *Чого назвыско Воробыно – ны знаю, зырно там сіялы, можэ, выроб'ів багато було.*

**ВЫТРО́ПНЭЕ** *н.* Поле, сенажаць на месцы былога балота (пасля меліярацыі). *Мы на Вытропному добру дялку сіна зкосылы.*

**ГАЛІ́ЦЫЯ** *ж.* 1. Хутар у лесе, які знаходзіцца на мяжы з Украінай. (Названа ад Галіцыя – 'гістарычная назва заходне-ўкраінскіх і польскіх зямель у складзе імперыі Габсбургаў у канцы 18 – пач. 20 ст.'). *На Галіцыі*

*ніхто шчэ жывэ.* 2. Частка лесу, размешчаная вакол хутара. *От поідэм на Галіцыю за грыбамы.*

**ГОРА́** *ж.* Поле, паша на ўзвышшы. *На Горі паша нычогая.*

**ГОРА́ і НА ГОРІ́** *ж.* Частка вёскі, якая знаходзіцца на пясчаным узвышэнні. *Наш дядько і наша баба жывуть на Горі.*

**ГОРОДО́К** *м.* Частка вёскі, пабудаваная ў 80–90 гады 20 ст. на месцы старой часткі вёскі. Назва з'явілася ў апошнія 15 гадоў. *Его дочка жывэ в Городку, у доміках, якраз коло садіка.*

**ГОРОДЭ́НЬСКЭ** *н.* 1. Лес, які знаходзіцца каля вёскі Гарадная. *Поіхалы по грыбы в Городэньскэ.* 2. Сенажаць, палі, што прымыкаюць да гэтага лесу. *Аж в Городэньскому сіно прышлосо робыты.*

**ГОСЦЯ́** *мн.* Поле і лес на месцы былога балота (да меліярацыі). *Мы ніколы пышком ходылы в Госця і косылы там вышэй, да іщчэ і зымою.*

**ГО́ЗЭРО і О́ЗЭРО** *н.* Возера, створанае на месцы асушанай часткі балота Марочна, дзе раней здабывалі торф. (Афіц. вадасховішча Марочна; 1,9 км / 1,15 км). *На Озэры людэй було до смутка, добрэ всі отдохнулы.*

**ГО́ЗЭРО і О́ЗЭРО** *н.* Нізкая мясцовасць на месцы былога возера, якое знаходзілася ва ўрочышчы "Стыкава". *На гэтом місці татары стоялі, іхнії коні выбылы ногамі зэмлю, там стало Гозэро.*

**ГО́РЫ** *мн.* Частка лесу "Хвойки", дзе знаходзяцца "горкі" – узвышаныя месцы. *После Нового году мы ходылы на Горы, іздылы там на лыжах.*

**ГРУДО́К** *м.* Паша паміж хатамі ў вёсцы, невялікае ўзвышанае месца, на якім расце прыродная трава. *Люды вжэ повыганялы корів на Грудок.*

**ДО́МІКІ** *мн.* Частка вёскі, дзе на месцы старых хат у 80 – 90 гады 20-га стагоддзя пабудаваны двух-, трохпавярховыя сучасныя дамы. Назва з'явілася ў апошнія 15 гадоў. *Відно, шо в нас святок: усі Домікі попрыходылы на танцы.*

**ДРУГА́ КУРЫ́ЛКА.** Частка лесу, размешчаная каля другой "курылкі" – доміка для адпачынку ў лесе. *Ягоды збыралы коло Другэй курылкі.*

**ДРУГА́ РЫБА́ЛКА.** Частка лесу каля другога ад краю лесу вадаёма. (Паходжанне мікратапоніма звязана з невялікімі ляснымі вадаёмамі, у якіх можна лавіць рыбу). *За Другую рыбалку мало хто йіздыть, то там назбыралы і білых, і коз, і краснюків, і зэлэныц.*

**ДРЫТЫ́ШЫН** *м.* Поле, сенажаць на месцы былога хутара. *Моя бабка, мій батько в войну жылы на хуторы, на Дрытышыну.*

**ДУБКИ́** *мн.* Невялікі лес з маладых дубоў. *Мусыть, ба́бок в Дубках назбыралы?*

**ЗА КАНА́ВОЮ.** Частка вёскі, якая размешчана за ракою Стублаю (рэчку ў вёсцы называюць Канаваю). *Заканавскыі – гэто тыі, шо жывуть За канавою.*

**ЗАБРУДО́ЧЧЭ** *н.* Частка вёскі, якая размешчана за ракою Стублаю, за бродам – месцам пераходу праз раку. *В Забрудоччэ поіхалы полэ дывытыса.*

**ЗАБЭРЭ́ЖЖЭ** *н.* Былы хутар (знаходзіцца за берагамі ракі Стублы), цяпер поле, а таксама сенажаць. *Дялку сіна нам одбылы в Забэрэжжы.*

**ЗАЛОЗЭ́ННЕ** *н.* Былы хутар, які знаходзіўся за лозамі; цяпер поле, сенажаць. *Тыпэр кукуруза е і в Залозэнні.*

**ЗАМОГЫ́ЛЛЕ** і **ЗАМОГЫ́ЛЬНЭЕ** *н.* Частка вёскі, якая знаходзіцца за "могыламы" – могілкамі. *Мій однокласнік жывэ в Замогыллі.*

**ЗАСТРУ́ЖЖЭ** *н.* Былы хутар каля в. Канюхі. Цяпер поле, сенажаць. Магчыма, названа ад слова "струга" – 'рэчка, канава'. *Гэтым літом корів загналы на БАМ аж у Застружжэ.*

**ЗБЫ́ШЧА** і **ЗБЫ́ШЧЭ** *н.* Частка вёскі, дамы якой былі збіты (пастаўлены) у адзін доўгі рад. Збышчэ раней было аддзелена ад цэнтра (ад Сыла́) невялікім балотам і пяскамі. *Мы жылы на Збышчы, потом пырыіхалы на По́лянку.*

**ЗОВКІ́НЬСКЭ** *н.* Поле, сенажаць, якія знаходзяцца каля вёскі Жолкіна (мясц. Зоўкінь). *До Зовкіньского ішчэ далэковато.*

**КАДЭ́БСКЭ** *н.* Балота. *Кадэбскэ находыцца за пчоламы, в сторону Ласыцка.*

**КАНА́ВА** *ж.* Рака Стубла. *Діты на Канаву побіглы купатыса.*

**КІРПІ́ЧНЫ ЗАВО́Д.** Частка лесу вакол завода, які вырабляў цэглу. *Мы іздылы по грыбы за Рыбалкиаж на Кірпічны завод.*

**КОЛО КРЭ́СТІКА.** Частка лесу вакол пастаўленага крыжыка. *Заіхалы в лісы далэко, бралы ягоды аж Коло крэстіка.*

**КО́ЛО МО́ГЛЫЦІВ.** Частка вёскі каля могілак. *Дывки гэтыі прыіжжають до бабок шо Коло моглыців жывуть.*

**КОЛОДЭ́НЬСКА ДОРОГА.** Дарога з вёскі Фядоры ў вёску Калоднае. *По Колодэньскэй дорозы быстрій будэ.*

**КОЛОДЭ́НЬСКЭ** *н.* Поле, лес, дарогі, што прылягаюць да тэрыторыі вёскі Калоднае. *Кінь наш аж в Колодэньскэ зайшов.*

**КОНІ́ВСКІ ЛІ́С.** Лес, які знаходзіцца каля вёскі Канюхі. *По дрова іздылы аж у Конівскі ліс.*

**КО́ЛО АРЭДРО́МА.** Поле вакол былога аэрадрома для самалётаў сельскагаспадарчай авіяцыі. *Сотки далы нам Коло арэдрома.*

**КО́ЛО ГО́ЗЭРА (О́ЗЭРА).** Лес, поле, размешчаныя каля возера Марочна. *Ожыны збыралы мы Коло озэра, іі там так багато наросло.*

**КО́ЛО КОНЮ́ШНІ.** Частка вёскі, якая знаходзіцца каля калгаснай канюшні. *Батько з матэр'ю жывуть в Фыдорах Коло конюшні.*

**КО́ЛО КО́МПЛЕКСА.** Поле, размешчанае каля жывёлагадоўчага комплекса. *Коло комплекса зжалы кукурузу.*

**КО́ЛО КО́СОГО МОСТА́.** Поле, сенажаць, а таксама дарога, што прылягаюць да маста. *Коровы пасуцца сёння Коло косого моста.*

**КО́ЛО ОСТАНО́ВКИ.** Частка вёскі, якая аддзелена ад асноўнай вёскі шашой Пінск-Столін і размешчана каля аўтамабільнага прыпынка. *Коло остановки колхоз настроів хороших хат.*

**КО́ЛО ПА́СЕКИ.** Частка лесу, а таксама невялікае поле, на якім размешчана пчальніковая гаспадарка. *Коло пасеки посіялы грэчку.*

**КО́ЛО ПОЖА́РНЭЙ.** 1. Частка вёскі, размешчаная вакол пажарнай станцыі. *Коло пожарнэй е хаты пустыі.* 2. Поле, размешчанае за пажарнай станцыяй. *Коло пожарнэй всэ засадылы рапсом.*

**КО́ЛО ПЧОЛОВО́ДА.** Частка лесу, на якой размешчаны пчальнік. *Малыну трэба збыраты Коло пчоловода, там добрый малыннік.*

**КО́ЛО СТРУКАЛЫ́ХЫ.** Частка вёскі, размешчаная каля былой сядзібы жыхаркі па мянушцы Струкалыха. *Поідэм Коло Струкалыхы, будэ блыжэй.*

**КО́ЛО СТЫРА́.** Сенажаць, урочышча, дарога, якія знаходзяцца каля ракі Стыр. *Слава богу, хоть Коло Стыра е жыва прырода.*

**КО́СЫЙ МІ́СТ.** Мост праз раку Стубла, які размешчаны коса, не пад прамым вуглом у дачыненні да ракі. *Підэм купацца до Косого моста.*

**КРА́СНЫ О́СТРОВ.** Былы хутар, створаны яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. *Сэрод хуторів у 30-і годы до войны був основаны і Красны остров.*

**КРОВА́ТКА** *ж.* Поле, сенажаць на месцы былога хутара. *У Кроватцы ныц ны зосталосо од хутора.*

**КРУ́ГЛАЯ** *ж.* Поле, сенажаць на месцы былога хутара. *На Круглэй ужэ всэ покосылы.*

**КУРЫ́ЛКА** *ж.* Частка лесу вакол “курылкі” (гл. ДРУГА КУРЫЛКА). *Ат походым трохы да й до Курылкі, там вылыкий ягіднік.*

**ЛА́СЫЦКІ БІ́Р.** Лес, які знаходзіцца ў Ласіцкім лясніцтве. *Грыбів білых богато назбыралы в Ласыцкому бору.*

**ЛА́СЫЦКЭ** *н.* Балота, поле, дарогі, канавы, размешчаныя бліжэй да вёскі Ласіцк. *То ж до Ласыцкого нэдалэко ж.*

**ЛІ́НІЯ** *ж.* Частка балота Марочня з электралініяй. *Тыі жонки аж за Лінію потягнулыса.*

**ЛОЗНЭ́Е** *н.* Поле, на якім раней расла лаза. *Сотки нам одбылы на Лознэму.*

**ЛОПА́ЦКЭ** *н.* Балота, поле, сенажаць, дарогі, канавы, размешчаныя каля вёскі Лапацін. *Прыйдэцца гнаты коровы аж у Лопацкэ.*

**ЛЫ́СА ГОРА́.** Частка лесу на ўзвышшы, на якім нічога не расце. *Трэба пэрэйты чэрэз Лысу гору, а там будэ і курылка.*

**ЛЮ́БОРА** *мн.* Поле на месцы былога хутара, а таксама лес каля гэтага хутара. *Ох і брусныц вродыло на Люборах, дай Божэ.*

**МА́ЛЫШЭВО** *н.* Лес і поле, якія знаходзяцца за Яныкавым лесам. *Дэ в чорта есціка гэтэ Малышэво.*

**МОРО́ЧНЯ** *ж.* Вялікае балота (афіц. бел. Марочна – руск. Морочно), якое знаходзіцца на памежжы Беларусі і Украіны. *Клюква в Морочні в гэтом году ныяк ны вродыла, мусытька, вымэрзла, як цвыла.*

**МШОК** *м.* Частка лесу, бліжэй да балота. *Тыпэр чырныц чымало во Мшку.*

**МЭРЛІ́НЦЫ** *мн.* Частка вёскі, дзе жывуць перасяленцы з вёскі Мерлін (Столінскі раён). *Воны збыраюцца на горі дэ Мэрлінцы.*

**НЫЧА́ТОВСКИЙ БІР.** Вялікі лес, які пачынаецца ад вёскі Нячатава і цягнецца да самай Украіны. *Учора мы булы в Нычатовскому бору.*

**НЫЧА́ТОВСКИЙ ЛІС.** Лес, які размешчаны каля вёскі Нячатава. *Нычатовский ліс вэльмо вылыкій.*

**НЫЧА́ТОВСКЭ** *н.* Балота, поле, дарогі, канавы, размешчаныя каля вёскі Нячатава. *Мы тыпэр і ны знаем дэ Фыдорскэ, а дэ Нычатовскэ.*

**ОБРЫ́В** *м.* Месца для купання, круты бераг з абрывам, глыбокая частка рэчкі Стубла. *Мы раньшэ на Обрыву по вэчорам купалыса, а тыпэр там мілко.*

**ОСТРОВО́К** *м.* Узвышанае месца з лесам, абкружанае балотам Марочна. *З Островка, як хто знае, можна багато мшарів натягаты.*

**ОСЭ́МЭРОВСКА ДОРО́ГА.** Дарога з вёскі Фядоры ў вёску Аўсямірава. *Раньшэ пышком ходылы по Осэмэрэвскэй дорозы.*

**ОСЭ́МЭРОВСКЭ** *н.* Балота, поле, канавы, дарогі, размешчаныя каля вёскі Аўсямірава. *По малыны мы ні́колы ходылы в Осэмэровскэ.*

**ПА́НЬСКЭ** *н.* Поле на месцы панскіх уладанняў. *Кэдысь жыв пан, вэльмо багаты, зымля була добрая, так і назвалы Паньскэ.*

**ПА́СІКА** *ж.* Месца, частка лесу, дзе знаходзіўся пчальнік. *Давай выйдэм Коло пасіки, а там пышком.*

**ПЕ́РША КУРЫ́ЛКА.** Частка лесу, размешчаная каля першай ад краю лесу "курылкі". *Коло Першэй курылкі ныма чого й робыты: там вжэ всэ выгрыблы.*

**ПЕ́РША РЫБА́ЛКА.** Частка лесу каля першага ад краю лесу вадаёма. Паходжанне мікратапоніма звязана з невялікімі ляснымі вадаёмамі, у якіх можна лавіць рыбу. *Мы Першу рыбалку проіхалы, там людэй було багато.*

**ПОЖАРІ́** *мн.* Поле, сенажаць на месцы былога балота. Названа ад слова "пажар". *Трохы косылы сіно в Пожарі, трохы в Стыкавы.*

**ПОПА́С** *м.* Паша, луг, на якім пасуць кароў. *Сходы, сыну, на Попас, занысы йісты батьку.*

**ПО́ЛЯНКА** *ж.* Частка вёскі, якая пабудавана на ўзвышаным месцы, на паляне, і славіцца багатымі садамі. *Наша хата якраз на Полянцы.*

**РА́ДЧЫЦКЭ** *н.* Балота, поле, дарогі, канавы, размешчаныя каля вёскі Радчыцк. *До Радчыцкого шчэ трэба добрацца.*

**РОВЫ́** *мн.* Частка Нячатаўскага лесу, дзе знаходзяцца акопы з Вялікай Айчыннай вайны. *Всёй мір божы ідэ до Ровів по ягоды.*

**РЫБА́ЛКА** *ж.* Паходжанне мікратапоніма звязана з невялікімі ляснымі вадаёмамі, у якіх можна лавіць рыбу. 1. Хутар у лесе, які знаходзіцца каля ляснога вадаёма. *На Рыбалцы пару хат ішчэ стоіть.* 2. Частка лесу вакол хутара. *Коло Рыбалкі всі грыбы вжэ выбралы.*

**РЫМЧУКО́ВЭ** *н.* Поле, паша, частка лесу на месцы былога хутара селяніна Рымчука (паміж в. Нячатава і в. Жолкіна). *Од нас до Рымчукового далэко, дэ в чорта оно находыцца.*

**САДО́К** *м.* Калгасны сад. *У Садку у нас ростуть слывки.*

**САДО́К** *м.* Поле, сенажаць на месцы калгаснага сада. *Горуть цилы дэнь тыпэрыка в Садку.*

**СІ́ТНЭЕ** *н.* Поле, сенажаць на месцы былога балота (да меліярацыі). Названа ад слова "сітнык" – расліна, на якую багатым было балота. *Сітнэе находыцца коло самых Фыдор.*

**СО́СОНКИ** *мн.* Невялікі сасновы лес каля вёскі, за фермаю. *Мы ходылы в Сосонки на горы.*

**СТА́РЭ СЫЛО́.** Частка вёскі. Раней – цэнтр вёскі. *На Старым сылі мало зосталосо молодёжы, одны старыі.*

**СТРУ́ГА** *ж.* Канава. *Мэжду Стругамы добра зымля.*

**СТРУКАЛЫ́ШЭНЭ** *н.* Сядзіба, а таксама поле вакол яе, якія раней належалі жыхарцы па мянушцы Струкалыха. *На Струкалышэнэму цьма ростэ бырозок.*

**СТУ́БЛО** *н.* Рака Стубла. *Мы іі зовэм Канавою, рідко колы – Стубло.*

**СТУ́БСКЭ** *н.* Былы хутар; цяпер поле, паша і лес, якія знаходзяцца за вёскаю Нячатава. Магчыма, утворана ад назвы ракі Стубла, якая працякае ў названым месцы. *На Стубскому е паша, алэ там усэ коровы з'їілы.*

**СТЫКА́ВА** *ж.* 1. Балота. *В Стыкавы можна выш'ю накосыты.* 2. Поле, сенажаць. *У Стыкаву ходылы сіно робыты.*

**СЫЛО́** *н.* Цэнтральная частка вёскі (знаходзяцца ўсе адміністрацыйныя будынкі, крамы, кафэ). *Усі люды на Сылі собралыса.*

**ТОРФЯ́НЫКИ** *мн.* Поле, створанае падчас меліярацыі на месцы тарфянога балота, а таксама на месцы лесу. *На Торфяныках усэ в гэтом году поросло: і бульба, і буракы, і морква.*

**ТРЭ́ТЯ КУРЫ́ЛКА.** Частка лесу, размешчаная каля "курылкі" (гл. ДРУГА КУРЫЛКА). *До Трэтеі курылкі мы по гэтэй гразі ны добэрэмса.*

**ФЫДО́РСКЭ** *н.* Балота, поле, дарогі, канавы, размешчаныя каля вёскі Фядоры. *У Фыдорскому болотів ужэ і ны осталосо – всії высушылы.*

**ХВОЙКИ́** *мн.* Невялікі сасновы лес каля вёскі, за фермаю. *Я в Хвойках стыльки грібыв назбырала!*

**ХО́МЧЫН САДО́К.** 1. Сад на месцы былога хутара жыхаркі па імені Хомка. *В Хомчыному садку яблык нарвалы повны мышок.* 2. Поле вакол саду. *Добра бульба выросла коло Хомчыного садка.*

**ЧО́РНЫЙ ЛІС.** Поле, лес. *Кругом ліс, а вокол поля – болото, тому, мусыть, і Чорным лісом назвалы.*

**ЧЭРТЫ́Ж** *м.* Поле, сенакос на месцы былога хутара. *Сіно нам одбылы в Чэртыжы.*

**ШНУРІ́** *мн.* Папас, луг, поле. *В тому місцы, на Шнурах, мої своякы жылы.*

**ШУ́РКА** *ж.* Поле на месцы былога хутара. *Мусыть, хутор Шурка назвалы так, бо там сыдів Шура – Шурка.*

**ШЫ́ЛО** *н.* Частка Нячатаўскага лесу. *В Шыло тыкі на возу доідэш.*

**ШЫРО́КЭЕ ПО́ЛЭ** *н.* Частка Нячатаўскага лесу. *Колысь у лісы люды пахалы собі полоски зымлі, потом стало однэ Шырокэе полэ.*

**Я́НЫКІВ ЛІС.** Лес, у якім калісьці лесніком быў чалавек па імені Янык. *У Яныковому лісу до смутка ростэ апэнькив.*

## ПРЫКАЗКІ. ПРЫМАЎКІ

Баба з воза – коню лэгчій.
Біг дав – біг забрав.
Бувае, шо суха ложка рот дырэ – трэба подмазаты.
Быз роботы – дэнь вылыкий, з роботою – короткий.
Быз стуку, быз гуку укралы як суку.
Бырыжоного і Біг бырыжэ.
В хаты холоду ныма.
В чужы рот ны заглядвай.
Высна год кормыть.
Гны, покуля гнэцца.
Горбатого могыла выправыть.
Гочы плачуть, а руки зробять.
Гуртом і кашу йісты добрэ.
Дав Біг до стола і дасть шчэ.
Дытэй годоваты – ны семки жуваты.
Дытя ны впадэ – ны выростэ.
Дэсять мінут позору – і всэ.
З вылыкого пырыбору выбэрэш хвору.
Завтра будэ завтра.
Запас кармана ны тягнэ.
Злодэя ключ шукае.
Зробыш добро – воно тобі вэрнэцца.
Зять любыть взяты.
Зять на поріг – тэшча за яйца (млыньцы).
Кому шо, а дурному дурнэ.
Ліпш буты ны красівым, а шчаслывым.
Мало хочэш – багато будэ.
Малэнькиі дітки – малэнькиі бідки, вылыкиі дітки – вылыкиі бідки.
Малэнький, алэ ж удалэнький.
Маты мылая, покамысь в мысцы сраку мыла.
Могыла всіх зровняе.
На быду (нычогэ) і півэнь нысэцца.
Ніч усіх помірыть.
Ны кола ны двора, а розумна голова.
Нывістка – зовыца, ятрівка, братыха.
Нывістка – чужа кістка.
Од роботы і коны дохнуть.
Одного пошлы, а за ім другого.
Покуля жывэш – всэ трэба, а як помрэш – штыры доски.
Правду ныхто ны любыть.

Прыйдэ дэнь – будэ діло.
Рано посіеш – добрэ збырэш.
Робота в ліс ны втычэ.
Свій свойго здаля бачыть.
Старэ як малэ.
У Бога днів багато.
Умыраты собравса, а жыто в полы сій.
Чорт повара побырав, коб він з голоду помырав.
Шо ны край, то свій бай.
Яблыко од яблыні далэко ны падае.
Як вмыраты – то з пісьнямы.
Як е – то горэ, і як ныма – то горэ.
Як ны змутыть, то ны жыв.
Як тырплывы, то і шчаслывы.
Який батько – такий і сын.
Якэ здоров, такэ і досвіданне.
Якэ семя, такэ і племя.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ.
## ПАРАДЫ-ЗАСЦЯРОГІ, ЗЫЧЭННІ-ЗАСЦЯРОГІ

Багато сніга – багато хліба.
Буськи рано одлэтають – холодна госэнь будэ.
Бырэмэнную ны можна лякаты.
В бырэмэнную ны можна нычым кыдаты.
В лісы ны пырыступай чэрэз повалэнэ дэрэво, бо заблудысса.
В новую хату пэршого трэба запустыты кота чы зайты з іконою.
Варвара – заварыть, Мыкола – загвоздыть.
Варвара заварыть.
Варвара кусок ночі вкрала.
Варвара ніч украла.
Гром на голэ голле – год голодны будэ.
До Благовішчэння зымля ішчэ спыть.
До Дмытра дівка хытра.
Иній на дырэв'ях – будэ багато грыбів.
Кабана трэба колоты старыком.
Капусту шынковаты і гурки солыты довжна мужчынска рука.
Каравая наражвають тыльки нызамужніі дывки.
Кішка мыецца – госты будуть.
Кішка пазюры точыть – до нышчасця.
Кішка скручваецца в клубок – до мороза.

Колы дытя сурочылы, то ёго трэба вылызаты (языком лызнуты носа знызу ввэрх і по бровам справа налево) і почытаты "Отчэ наш", і всэ повторыты тры раза.

Коровай пышны – до шчасця молодых, коровай упав чы пусты – до нышчасця.

Крук крукае на хаты – будэ покойнык, і в тому боку сыла, куда повэрнута голова крука.

Крумкало крумкае – на покойныка.

Кугыкало кукуе – на быду.

Кура купаецца в пыску – до дошча.

Кура спывае на быду.

Ластовки нызко лэтають – будэ дошч.

Льля в воду насцяла.

Льля прынысла гныллля.

Малэнькі павук з головы спускаецца – на добру новость.

Мыкола закуе.

На Благовішчанне холодно – літо холоднэ будэ.

На высіллі ны можна проходыты чы становытыса мыж молодых.

На Ганны́ поідэш санмы.

На Головосіка ны можна браты в руки гострэе; ны можна сікты, різаты круглэе; ліпш зусім нычого ны робыты.

На Здвіжэнне в ліс ны ходы: гужаки збыраюцца в кучки.

На Купало трэба ягоды збыраты – воны вэльмы лічэбныі.

На Пэтра хліба прыпыкла, на Льлю повну піч угачу.

На Ровнодэньство сніг – літо будэ сухэе.

На Сороки дэнь з ніччу поміраюцца.

Ны бый жабу, бо будэ дошч.

Ны бый павука.

Ны быры в руки жабу, бо бородавки выростуть.

Ны вынось смітте з хаты вэчэром.

Ны йіш з ножа – злым будэш.

Ны кляны людэй, бо на тыбэ гэтэ вэрнэцца.

Ны можна бырэмэннэі довго дывытыса в люстро, бо дытя будэ ныхорошэ.

Ны можна бырэмэннэі довго жуваты, бо дытя будэ нынасытнэе.

Ны можна бырэмэннэі лазыты проз гокно.

Ны можна бырэмэннэі нычым отказваты.

Ны можна бырэмэннэі пырыступаты чырыз выровки, шнурі, а то пуповына замотаецца вокола шыі дытяты.

Ны можна бырэмэннэі стрыгты косы.

Ны можна забываты божую коровку.

Ны можна класты хліб догоры ногамы.

Ны можна нычого оддовжаты после захода сонца.

Ны можна оддовжаты сіль.

Ны можна першыі тры дні шчычаты опоросывшыхса поросюкив.

Ны можна пырыходыты дорогу молодым, як ідуть роспысватыса.

Ны можна пырыходыты дорогу, як вызуть покойныка на моглыца.

Ны можна роскыдьваты ластовчынэ гныздо.

Ны можна шыты на собі, бо розум свій зашыеш.

Ны можна, шо б кіт, собака пробігалы помыж ніг бырэмэннэі, а то дытя родыцца волосатэе.

Ны пырыдавай шо-нэбудь чырыз поріг.

Ны трэба нычого йісты, колы закатваеш банки.

Ны ходы по тому місцы, дэ кінь качавса, бо будуть боліты ногы.

Нэбо яснэе – до мороза, краснэе – до вітра.

Одуванчык закрываецца – будэ дошч.

Павук жывэ в хаты – на добро.

Павук спустывса з головы – будэ добра навына.

Покрова покрывае зэмлю ны лыстом, то снігом.

Покрова покрывае зэмлю сніжком, а дівку жынышком.

Покрова снігом зэмлю покрывае.

Покуля ны заспывае жыдівска зозуля, трэба носыты грошы в кішэні, а як почуеш жыдівску зозулю, постукай по кішэні, шо б водылыса грошы.

Послэ купання малого дытяты воду з корыта ны трэба вылываты до взыхода сонца.

Послэ Льлі госэнь наступае.

Послэ Льлі ны можна в воді купатыса.

Послэ Покровы почынаецца зыма.

Послэ похавання хату ны подмітають тры дня.

Про покойныка нычогэ ны кажуть.

Прышла Прычыста – в полы чысто.

Прышла Прычыста – зыма блызко.

Пташки высоко на дырэв'ях – будэ мороз, нызко – одлыга.

Пуповыну і косы, обрізаныі в год, трэба захаваты і положыты іх у школьную сумку, як дытюк підэ пэршый раз у школу.

Святы Пытро глуховаты: полывае зэмлю ны тоді, як просять, а тоді, як косять.

Семечки трэба садыты поночы, шо б птушки ны бачылы.

Сій говэс в гразь, то будэ князь.

Сіль россыпаты – до слёзэй (сваркы), цукор – до сміху (радості).

Собака вые на быду (на покойніка).

Туман спустывса – будуть грыбы.

У Бога два Юр'і і два дурні: одын холодны, а другый голодны.

У молодэі дівчыны первый хрышчэнык довжэн буты хлопчык.

Хату ны прыбырають пэрэд дорогою.

Чыромуха цвытэ – сады бульбу.

Як буськи в кучки збыраюцца – хутко госэнь.

Як вставляеш хліб в піч – ныхто ны довжэн заходыты і выходыты з хаты.

Як высною першы раз побачыш буська, стоячого на зымлі, то будуть ногы боліты.

Як грымыть – ны можна спаты.

Як грымыть, трэба буты одітым (ны голым).

Як грымыть, трэба позакрываты люстра.

Як дым з комына зымою подымаецца ввэрх, значыть, мороз шэ будэ довго дыржатыса.

Як дым з комына зымою подымаецца вныз, значыть, будэ одлыга.

Як з рук всэ валыцца – значыть, ні́хто спышыть чы госты будуть.

Як заб'ють кабана, трэба зрізаты з пятака, хвоста і цыцок кусочки і закынуты у кучку, дэ він стояв.

Як знайшов покынутэе сіневатэе яйцэ – трэба вынисты його на пырыкрыжованне і покласты.

Як ікона впала со стыны – в хату прыйдэ смэрть.

Як мошкара б'е ступу – до тыпла.

Як на 26 января світыть сонцэ, то рано прылытять пташки.

Як на пэршы дэнь Вылыконня в хату входыть мужчына – на шчасце.

Як на Срітынне півэнь нап'ецца воды под вуглом, то на Юр'я корова найісца травы под кустом.

Як найдэш шпыльку – ны подымай.

Як обвалыцца выкопаная на моглыцах ямка – то будэ хутко шчэ покойнык.

Як одів годэжу шыворот-навыворот – будэш бытым.

Як покойнык в хаті – закрый люстра.

Як послэ Роздва морозы, то послэ Пытра – жара.

Як родылосо дытя, то його трэба пырыхрыстыты до сорока дён.

Як садыш цыбулю, трэба прысісты в началі радка.

Як садять бульбу, пэршую бульбыну довжна посадыты хозяйка чы той, у кого рука лэгкая.

Як у хаты покойнык, то, заходячы в хату, ны здороваюцца.

Якая Вэрбныца – такэ і Вылыконне.

## З МОРА ВАДЫ НЕ ВЫБЕРАШ, З МОВЫ СЛОВА НЕ ВЫКІНЕШ...
### (Фразеалагічныя адзінкі)

### А

**А БЛУД ЁГО́ ЗНА́Е.** Выкарыстоўваецца ў значэнні "не ведаю". *А блуд ёго знае, чого воны там копаюцца.*

**АБЫ́ ЗРОБЫ́ТЫ.** Дрэнна, абы-як выканаць што-небудзь. *Мні всё ровно: абы зробыты гэтэ і одчыпытыса.*

### Б

**БО́ЖЫЙ ДЭНЬ.** Працоўны прамежак часу, г. зн. светлы час. *Іщчэ божый дэнь на дворі, а вы вжэ коло тілівізора сыдытэ.*

**БО́ГУ МОЛЫ́ТЫСА.** 1. Доўга думаць. *Хватыть ужэ Богу молытыса, трэба робыты і всё.* 2. Доўга нешта рабіць. *Ты, мусыть, там Богу молывса, так довго ны було.*

**БРАТ ТЫ МІЙ.** Выклічнік у значэнні здзіўлення. *Брат ты мій, який ты ввобраны!*

**БРА́ТЫ В ГО́ЛОВУ (ДО ГОЛОВЫ).** Балюча ўсё ўспрымаць, моцна перажываць. *Хай маты ны бырэ гэтэ до головы.*

**БРА́ТЫ ЗА ШКВА́РКИ.** Сварыцца, спрачацца, прыцягваць да адказнасці. *Ты мынэ за шкварки ны быры, бо всё ровно ныц ны получыцца.*

**БУНТА́ЦЫЮ РОБЫ́ТЫ (ЗРОБЫ́ТЫ).** Падбухторыць да дрэннай справы, настроіць каго-небудзь супраць некага. *І нашо було такую бунтацыю робыты?*

**БУ́ТЫ ПО ЁМУ (Е́І, ІХ).** Усё павінна быць зроблена так, як ён (яна, яны) жадаюць. *У батька трэба, коб всэ було по ёму.*

**БЫЗ ЗА́ДНІХ НІГ (СПА́ТЫ).** Моцна спаць. *Во малы наробывса, шо откынувса быз задніг ніг.*

**БЭ́ЗВЭСТІ ДЭ.** Вельмі далёка. *Нам одбылы сотки в гэтому году бэзвэсті дэ.*

**БЭ́ЗВЭСТІ ПРОПА́СТЫ.** Знікнуць, доўга адсутнічаць. *Пошлы воны в магазін – і бэзвэсті пропалы.*

**БЭЗУСВІ́ТНО СКІ́ЛЬКИ.** Вельмі многа, багата. *Во місцыну ягід нашла, бэзусвітно скільки іх тутыка!*

**БЭЗУСВІ́ТНО ЯК.** 1. Добра. *Бэзусвітно як уродыла бульба, шчэ такого ны було.* 2. Вельмі. *Бэзусвітно як тыпло тыпэрычка на дворі.*

# В

**В БЛУД (ПОЙТЫ́).** Невядома куды (ісці). *Воны в блуд пошлы, чы шчо, шо так довго ныма?*

**В ДВІ (ТРЫ) ПОГІ́БЕЛІ.** Вельмі сагнуцца. *Нашу бабу скрутыло в дві погібелі.*

**В ДІ́ВКАХ (ДЫВКА́Х) ОСТА́ТЫСА.** Не выйсці замуж. *Ты, мусытька, так і хочэш в дівках остатыса.*

**В ДУ́ПЭЛЬ (НАБРА́ТЫСА; РОСКВА́СЫТЫ).** 1. Вельмі моцна (напіцца гарэлкі). *Госты вчора в дупэль набралыса.* 2. Разбіць штонебудзь. *В дупэль росквасылы всіі банки.*

**В ДУ́ШУ ВЛІ́ЗТЫ.** Станавіцца прадметам пастаянных разважанняў, думак; запасці ў душу. *Він мні в душу вліз – і всэ, ныц ны можу з собою зробыты.*

**В НОСУ́ КОЛУПА́ТЫСА.** 1. Доўга думаць. *Покуля в носу колупалыса, то і дошч влупыв.* 2. Нічога не рабіць. *Хватыть в носу колупатыса, іды батьку поможы.*

**В РОТ НЫ ВБЫ́ТЫ (НЫ ВЗЯ́ТЫ).** 1. Вельмі нясмачнае (салёнае, ці салодкае, ці горкае, ці нясвежае і г. д.). *Напыкла млыньців, шо в рот ны вбыты.* 2. Не хацець, не жадаць есці, не магчы прымаць страву. *Так болыть, шо йіжу в рот ны вбыты. Гуркы солёныі – в рот ны взяты.*

**В РУБА́ШЦЫ РОДЫ́ТЫСА.** Быць вязучым, шчасліўчыкам. *Як воны ны розбылыса, мусытька, в рубашцы родылыса.*

**В РУКА́Х ГОРЫ́ТЬ.** Усё атрымліваецца; здатны да ўсяго чалавек. *В твойго батька в руках всэ горыть.*

**В СОБА́ЧЫЙ ГО́ЛОС.** Позна. *По ягоды пошлы в собачый голос, дэ ж там назбыраютъ.*

**В СОБІ́ (ХОДЫ́ТЫ, БУ́ТЫ).** Моўчкі. *Дочка ныколы нычого ны росказвае, ходыть вся в собі.*

**В СТО́ЛЮ ПЛЮВА́ТЫ.** Нічога не рабіць. *Всэ літо в столю плювалы, а тыпэрыка йісты ныма чого.*

**ВІ́РУЙ (-ТЭ) БО́ГА.** Выклічнік, які выкарыстоўваецца для ўзмацнення просьбы, пацвярджэння сказанага. *Віруйтэ бога, поможітэ засунуты гэтыі сумыцы.*

**ВІТЁР СВЫ́ШЧЭ В ГОЛОВІ́.** Легкадумны, неразумны, пусты чалавек. *В гэтого дітяты ішчэ вітёр свышчэ в голові.*

**ВЛА́ЗЫТЫ В ДУ́ШУ.** Умешвацца ў справы некага, дабівацца даверу. *Да ны влазь ты в мою душу, і так чэмэрно.*

**ВОШ ПЫТУ́ШНАЯ.** Непаседа, непаслухмяны чалавек; той, які вучыць старэйшых (звычайна выкарыстоўваецца ў адносінах да дзіцяці). *Ах, ты, вош пытушная, ты мні будэш указваты, як робыты!*

**ВО́ШЫ З'ЇДЯ́ТЬ.** Доўга працаваць; вельмі многа працы. *Тут і вошы з'їдять коло гэтый бульбы, поки мы іі пырыбэрэм.*

**ВСТА́ВЫТЫ СВОЇ ПЯТЬ КОПІЁК.** Умешвацца ў чужую размову, у чужыя справы. *Ну, то ж гэ, кажэн хочэ вставыты своі пять копіёк.*

**ВСТА́ВЫТЫ СВОЙГО́ ЯЗЫКА́.** Умешвацца ў чужую размову ці ў чужыя справы. *Як шо варто помовчаты, то тобі гэть кортыть вставыты свойго языка.*

**ВСТА́ТЫ НЫ С ТЭ́І НОГЫ́.** Быць злым, незадаволеным. *Ты, мусытька, знова встав ны с тэі ногы?*

**(ВСЭ) НЫ СЛА́ВА БО́ГУ.** (Усё) не так, як павінна быць. *Да в гэтых людэй всэ ны слава богу.*

**ВЫ́ЙІСТЫ ВСІ ПЫЧО́НКИ.** Замучыць, надакучыць. *Ох, і нычогы гэты чоловік, всі пычонки моі выйів!*

**ВЫ́РАЧЫТЫ ЗЕ́НКИ (ГО́ЧЫ).** Здзівіцца; зрабіць выгляд здзіўлення. *А чого ты зенки своі вырачыв, то ж всэ добрэ?*

**ВЫ́ХВОРАТЬ БО́КИ.** Будзе цяжка (часцей выкарыстоўваецца ў будучым часе, можа быць і ў прошлым – *выхворалы боки*). *Вона розышласа з мужыком, тыпэр выхворать іі боки.*

## Г

**ГАРА́ЧКА ПО́РЫТЬ.** Вельмі спяшацца. *Ны спышы, от жэ тыбэ зарэзка так гарачка порыть.*

**ГОЛОВА́ ТРЫШЧЫ́ТЬ.** Моцны галаўны боль. *У матыры вэчэром будэ голова трышчаты од вашого пыску.*

**ГОЛОВО́Ю НАКЛА́СТЫ.** Памерці. Звычайна выкарыстоўваецца ў якасці праклёну, пажадання нядобрага. *А коб ты головою наклав, як ты гэтэ зробыв!*

**ГОЛЫЗУ́НДЫ ТРЫПА́ТЫ.** Нерваваць, даймаць, дапякаць, прымушаць нервавацца каго-небудзь. *Хватыть мні голызунды трыпаты.*

**ГО́НУБУ НЫМА́.** Няма ратунку ад некага, нечага. *Гонубу ныма од гэтого ворония.*

**ГОНЬ ЁГО́ ЗНА́Е.** Невядома. *Куды всіі тыі люды з гавтобуса пошлы – гонь ёго знае?*

**ГОРОДЫ́ТЫ ЯЗЫКО́М.** Абы-што гаварыць. *Абы шо б городыты языком, а толку мало.*

**ГОСПО́ДНЯ СЫ́ЛА.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, злосць. *Господня сыла! Куры і до капусты добралыса!*

**ГО́НУБУ НЫ ДАВА́ТЫ.** Не даваць праходу, увесь час турбаваць па нейкай прычыне. *То ж він ужэ гонубу ны дае, трэба ёго послухаты.*

**ГО́РЛО РОСТА́ВЫТЫ.** Гучна крычаць, моцна сварыцца. *Успокойса, чого ты горло своє роставыв?*

**ГРОША́МЫ РОСКІ́ДЬВАТЫ.** Жыць на шырокую нагу. *Воны грошамы роскідьвають налево і направо, а посля плачуть.*

**ГУБУ́ ОТСТА́ВЫТЫ.** Пакрыўдзіцца; заплакаць. *Як шо ны по їй, то губу отставыть і пошла плачучы.*

**ГЫДО́ТТЕ (СВЫНА́РНЫК) РОЗВЫСТЫ́.** Дапусціць кавардак, беспарадак, сметнік; не прыбіраць у хаце, на двары і г. д. *В хаты такэе гыдотте розвылы, шо ныма як зайты. Ны вспілы прыбраты, як во дворі нашы сусіды зновыка свынарнык розвылы.*

**ГЭШЭ́ФТ МА́ТЫ.** Сябраваць, быць у добрых стасунках. *Іды ты да побай з гэтым начальніком, ты ж з ім гэшэфт маеш.*

## Д

**ДАВА́ТЫ СТРАНІ́ ВУГЛЯ́.** Вельмі добра працаваць, хутка нешта рабіць. *Ох, і далы ж страні вугля мы сёння на бураках!*

**ДА́ЛЬШЭ НЫМА́ КУДА́.** Дрэнна, абы-як. *Бульбу вытраслы – дальшэ ныма куда.*

**ДА́ТЫ ВТЫК.** Накрычаць, насварыцца, пакараць. *Діты такэі быды наробылы, ну вжэ батько і дасть втык.*

**ДА́ТЫ ДЁРУ (ХО́ДУ).** Кідацца наўцёкі, хутка уцякаць, бегчы. *А заец злякавса, то доброго дёру дав. Діты так далы ходу з лісу, шо тыльки пяткы свыркалы.*

**ДА́ТЫ ОТПО́Р.** Даць жорсткі адказ, абараняючы сябе; распраўляцца з іншымі. *Внука такая, шо всім дасть отпор.*

**ДА́ТЫ ПРЫЧЫХВО́СТА.** Насварыцца; сурова распраўляцца з кім-небудзь, караць, набіць. *Маты такого дала прычыхвоста сыстры, што вона більш ны захочэ так робыты.*

**ДЖА́ЗУ ДАВА́ТЫ[1].** Моцна крычаць, сварыцца. *Мы ны загналы гусэй в будку, то баба дала нам джазу.*

**ДЖА́ЗУ ДАВА́ТЫ[2].** Добра, энергічна, з імпэтам нешта рабіць. *Вся сым'я з'іхаласа, то такого джазу далы коло тэі бульбы.*

**ДЖА́ЗУ ДАВА́ТЫ[3].** Хутка уцякаць, хутка бегчы. *Тітка як дала джазу з матэрнэі хаты!*

**ДО РУ́БА.** Вельмі, наскрозь прамокнуць. *Булы в лісы, дошч як влупыв, то до руба промоклы.*

**ДО СВЫНЯ́ЧОГО ВЫ́ЗГУ (НАБРА́ТЫСА).** Моцна напіцца гарэлкі; быць п'яным. *Він нiдiлю набыраецца до свынячого вызгу.*

**ДО СМУ́ТКА.** 1. Багата, многа, шмат. *Ягід у лісы було до смутка.* 2. Вельмі (напрыклад, добры, прыгожы і г. д.). *Він у ії до смутка хорошы.*

**ДО ХЕРА́ І ТРО́ШКИ.** Вельмі багата. *Роботы в нас зосталосо до хера і трошки.*

**ДОВЫСТЫ́ ДО РУ́ЧКИ.** 1. Апусціцца, не даглядаць сябе. *Самы мужыкы довылы сыбэ до ручки.* 2. Захварэць. *З пырыжывання довыдэш сыбэ до ручки.*

**ДОЙТЫ́ ДО РУ́ЧКИ.** Апусціцца, не глядзець сябе. *Чы ж так дойты до ручки, нэбысьто в городі жывэ.*

**ДОСТА́ТЫ З-ПОД ЗЫМЛІ́.** Абавязкова знайсці. *Воны ж мынэ серавно з-под зымлі достануть.*

**ДУ́СТУ З МА́КОМ (ДА́ТЫ).** Нічога не даць. *За такиі выбрыки я тобі дусту з маком дам.*

**ДУ́ШУ ВЫПЫКА́ТЫ.** Нешта вельмі пякучае (звычайна пра страву). *Хрін наш таки пыкучы, шо душу выпыкае.*

**ДУ́СТУ ДА́ТЫ.** Нічога не даць. *А раз так, то я ёму дусту дам.*

**ДУ́Р'Ю МА́ЯТЫСА.** Рабіць абы-што. *Скільки можна дур'ю маятыса, пора вжэ ж шо-ныбудь і толковэ зробыты.*

**ДЫРЖА́ТЫ ВУ́ХО НА ЧЭКУ́.** Быць уважлівым, аберагаць сябе. *Ты ж в городі дыржы вухо на чэку.*

**ДЭ В ЧО́РТА.** Далёка. *Воны поіхалы дэ в чорта, аж у Галіцыю.*

**ДЭНЬ ДЭНЮ́СЭНЬКИ.** Цэлы дзень. *Дэнь дэнюсэньки дошч лье шо з якого выдра.*

**ДЭНЬ ПРОСВЫСТА́ТЫ.** Нічога не рабіць. *Цилы дэнь просвысталы в тому городі і нычого ны поспілы.*

## Е

**Е ШЧО БА́ЯТЫ.** 1. Няма чаго гаварыць пра нешта, некага. *Хіба ж він таки, е шчо баяты про ёго?* 2. Выкарыстоўваецца ў значэнні пабочнай канструкцыі пры сумненні, што гавораць праўду. *Ага, е шчо баяты, хыба люды прызнають свою ныправду?*

**Е́ВА МА́РКОВА.** Недагледжаны, неакуратны чалавек. *Тэмна, страшна – настоящча ева маркова.*

## Ж

**ЖЫВЦЭ́М ВЫ́РВАТЫ.** Адарваць разам з тканінай; поўнасцю парваць. *Рытузы раз оділа і вжэ жывцэм іх вырвала.*

**ЖЫВЦЭ́М З'ЇЙСТЫ.** Поўнасцю сапсаваць, знішчыць. *Як можна було такиі крэпкиі колготкі за вэчор жывцэм з'їсты?*

**ЖЫЗНЬ-МАЛІ́НА.** Добрае жыццё. Часам выкарыстоўваецца з іроніяй. *У іх жызнь-маліна стала.*

## З

**З ВЫ́ПАДКОМ.** Вельмі. *З выпадком бульба хороша в гэтому году.*

**З ГАРА́ЧКИ СМЫЯ́ТЫСА.** Не да месца, недарэчы смяяцца (асабліва ў дрэннай сітуацыі). *Тутыка плакаты трэба, а ты, мусыть, ужэ з гарачки смыесса.*

**З ГРАЗЁЮ ЗМЫША́ТЫ.** Абганіць, прынізіць, груба аблаяць, несправядліва абвінаваціць. *Ны за нівошчо з гразёю змышалы, а тыпэрычка вжэ дыбрыі.*

**З ГРАЗІ́ НЫ ЗЛА́ЗЫТЬ.** Вельмі брудны. *У тыбэ світла куртка з гразі ны злазыть.*

**З СУХО́ТОЮ.** Вельмі. *З сухотою тыпэрыка всэ вродыло.*

**ЗА МЫ́ЛУ ДУ́ШУ.** З вялікім задавальненнем, вельмі ахвотна. *Люды дарэмнэ за мылу душу забыруть.*

**ЗА ПЯТЬ СВОІ́Х ПА́ЛЬЦИВ.** Купіць за нішто (ужываецца, калі трэба сказаць, што няма грошай). *За шчо я куплю гэтую хату, хіба за пять своіх пальцив.*

**ЗАЛЫ́ТЫ ГО́ЧЫ.** Моцна напіцца гарэлкі. *Знов мужыкі позалывалы гочы і сувыляюцца по сылі.*

**ЗАСКО́К ЗАЙШО́В.** Паводзіць сябе не так, як звычайна. *У сусіда заскок зайшов, шо так крычыть і бігае туда-сюда.*

**ЗГОРЫ́ ТВОЯ́ (ВА́ША) БЫДА́.** Выклічнік, які перадае пачуццё здзіўлення, непаразумення, збянтэжанасці. *Згоры твоя быда, чы ж так выпалюшоваты всю цыбулю!*

**ЗЛА НЫ ХВАТА́Е.** Вельмі раззлавацца. *На гэту дівчынку аж зла ны хватае.*

**ЗЛО РОЗБЫРА́Е.** Злавацца, нервавацца. *Зло розбырае, як бачу гэты страшнюшчы кавардак.*

**ЗНАКУ́ НЫМА́.** Нічога не засталося; прапала, знікла без следу. *І знаку ны зосталосо од твоеі раны.*

**ЗЫМА́ ПЫРЭМЭ́ЛЕ.** Усё патраціцца. *Наставылы банок в лёху – мать чэсная, алэ ж зыма пырэмэле.*

## І

**І В ВО́ЧЫ (НЫ БА́ЧЫТЫ).** Ніколі (не бачыць нешта, некага). *Отчыпітэ душу, і в вочы ны бачыв вашыі драпкы.*

**І В ВУС НЫ ДУ́ТЫ.** Не звяртаць ніякай увагі на што-небудзь, ніяк не рэагаваць. *Хлопэц такий спокойны: гам, крыкі, чортвідь шо, а він спыть собі і в вус ны дуе.*

**І НО́СА НЫ КАЗА́ТЫ.** Не з'яўляцца, не паказвацца. *Маты годовала-годовала, а тыпэрыка воны і носа ны кажуть до іі, пропадае сама жоноччына.*

**І НЫ́ТКІ СУХЭ́І НЫ ЗОСТАЛО́СО.** Поўнасцю прамокнуць. *Як пасвылы коровэй, всёй дэнь дошч валыв – і ныткі сухэі ны зосталосо на нашому тілы.*

**І У́ХОМ НЫ КІВА́ТЫ.** Не звяртаць ніякай увагі на што-небудзь, ніяк не рэагаваць. *А хоть ты в лоб ёму стрыляй, кажы-кажы, крычы-крычы, а він і ухом ны ківае.*

**ІДТЫ́ (ХОДЫ́ТЫ) З ПІ́СНЯМЫ.** Плакаць. *Ну, ты глянь, знов вона со школы ідэ з піснямы.*

**ІДТЫ́ (ХОДЫ́ТЫ) РО́СКАРАЧКИ.** Напівацца гарэлкі, быць п'яным. *Да вжэ всэе сыло ніділю послэ трынаццатэй зарплаты роскарачки ходыть.*

**ІДТЫ́ В ЛЮ́ЛЮ.** Класціся спаць. *Гэтэй малэі шчэкороті пора вальцоваты в люлю.*

**ІСПО́РТЫТЫ (ВСЮ) МАЛЫ́НУ.** Сапсаваць. *Усэ так добрэ було, а тут трэба ж було іспортыты всю малыну.*

## Й

**ЙТЫ (ПОЙТЫ́) В ХВОЙКИ́.** Памерці. *То ж мні, мусытька, пора прышла йты в хвойки.*

## К

**КАРДІБАЛЕ́ТЫ СТА́ВЫТЫ.** Капрызіць, выдурвацца, не слухацца. *Малэе кажэн дэнь дэнюсэньки такиі кардібалеты ставыть, шо ны знаемо, як рады з ім даты.*

**КА́ША-МАЛА́ША.** Мешаніна. *Ны салат получывса, а настояшча каша-малаша.*

**КЛЁПКІ Е (МА́Е).** Разумны (хто-небудзь). *У тыбэ клёпкі е, хоть якиі, чы ты зусіма того?*

**КЛО́ПОТ ЁГО́ БЫРЫ́.** Няхай, хай сабе. *Клопот ёго быры, і так добрэ, стыльки выкопалы сёння бульбы.*

**КЛО́ПОТ ТАМ.** Няхай, хай сабе. *Ой, хай посплять, клопот там, робота помалу зробыцца.*

**КОЛХО́ЗНЭ РА́ДІВО.** Людзі, які разносяць плёткі, навіны. *Хіба от колхозного радіва нівошчо схаваеш?*

**КОНЭ́Ц ПРЫХО́ДЫТЬ.** 1. Злавацца. *Тыпэр конэц ёму прыходыть, ныма ж дэ поспаты.* 2. Моцна перажываць, не знаходзіць сабе месца. *А мні аж конэц прыходыть, бо ны знаю, чы добрэ воны доіхалы.*

**КОПО́РЭ ЁГО́ БЫРЫ́.** Няхай; хай будзе так, як ёсць; хай сабе; няхай прападае, знікае. *Копорэ ёго быры гэтыі грошы.*

**КОТРА́ (КОТО́РА) ПОРА́.** 1. Вельмі даўно, доўгі час. *Котра пора воны ходять і ныяк ны побыруцца.* 2. Позна. *Котра пора, а бабы ішчэ і блызко ныма.*

**КРА́СНА СУБО́ТА.** Дзень перад вялікаднем. *У нас в красну суботу тыльки готовять йісты, другэе ныц ны робять.*

**КУДЫ́ ТВОЕ́ ДІ́ЛО.** 1. Пра фанабэрыстага, ганарыстага чалавека. *Тая дівчына носа дырэ – куды твое діло.* 2. Пра прыгожа апранутага чалавека. *На ферму вырадывса – куды твое діло.*

**КУПЛЯ́ТЫ ШО-НЭ́БУДЬ.** 1. Вельмі доўга не вяртацца. *Ты шо там, на покоту, робыв, купляв нішо чы шо?* 2. Марудна нешта рабіць. *Ны купляй шо-то коло гэтэй морквы? Шах-мах – і пополола.*

**КУСО́К БАНДІ́ТА.** Вельмі дрэнны чалавек (часцей выкарыстоўваецца ў адносінах да дзяцей). *У іх ны дытя, а кусок бандіта ростэ – такэ ныгоднэ.*

## Л

**ЛО́КТІ ОПА́РЫТЫ.** Дрэнна жыць, паспытаць горкай долі. *О, тыпэр вона быз сына локті опарыть.*

**ЛЭ́ЖМА ЛЫЖА́ТЫ.** Гультаяваць, нічога не рабіць. *Так воны ж цилэ літо лэжма лыжалы, а тыпэр по хатах ходять.*

**ЛЫЖА́ТЫ В ХВОЙКА́Х.** Памерці. *То ж тому діду пора вжэ в хвойках лыжаты.*

## М

**МАТЬ ЧЭСНА́Я.** Выклічнік, які перадае пачуццё здзіўлення. *Мать чэсная, який жэ ты пысаны красавэц!*

**МІ́СЦА НЫ ЗНАХО́ДЫТЫ.** Хваляваоца, перажываць; злавацца. *Наробыла быды, тыпэр місца собі ны знаходыш.*

**МО́ЖЭ БУ́ТЫ.** Выклічнік са значэннем здзіўлення, шкадавання ў сувязі з чым-небудзь, як правіла, у знач. "на самай справе". *Можэ буты, нывжэ воны розошлыса?*

**МОЗГА́МЫ ШЫВЫЛЫ́ТЫ.** Думаць, разважаць. *Ты ж трохы мозгамы шывылы, а то дурнем выростэш.*

**МОРОЧЫ́ТЫ ГО́ЛОВУ (СРА́КУ).** Дацінаць, надакучваць. *Шо ты мні морочыш голову своімы цацкамы. Отчыпыса ты од іх, ны морочы ім сракы, хай будэ гэтэ на іх совэсті.*

**МОЯ́ СУХО́ТА.** Выклічнік са значэннем шкадавання, здзіўлення. *Ах, ты ж моя сухота, такий малэньки, а самэнький всэ дотягнув.*

**МО́ДУ ВЗЯ́ТЫ.** Пастаянна, увесь час рабіць адно і тое ж. *От жэ моду взяв утыкаты і ныц ны робыты.*

**МЫНТЫ́ТЫ ЯЗЫКО́М.** Шмат гаварыць; абы-што гаварыць. *Хватыть мынтыты языком, трэба і ділом занятыса.*

**МЭ́РТВО СПА́ТЫ.** Моцна (спаць). *Галёканне, крыки, алэ ж дітки натомылыса, то мэртво сплять.*

## Н

**НА БЫДУ́ (НЫЧО́ГЭ) І ПІ́ВЭНЬ НЫСЭ́ЦЦА.** Выкарыстоўваецца, калі гавораць, што ў жыцці ўсё можа здарыцца. *Як такэе могло буты, алэ ж на нычогэ і півэнь нысэцца.*

**НА БЫДУ́.** У значэнні пабочнай канструкцыі. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-небудзь. *Трэба ж було, на быду, і мні свойго языка вставыты.*

**НА ГОЛОВІ́ СТОЯ́ТЫ.** Шалець, дурэць, свавольнічаць. *Діты хату рознысуть, цилэнький дэнь там на голові стоять.*

**НА ЛЮ́ДЫ.** Да людзей, на свята, на нейкае мерапрыемства. *На люды можна і хорошэ одітыса.*

**НА МІ́СЦЫ СЫДІ́ТЫ.** Не расці, быць маленькім. *Буракы на місцы сыдять, ныяк ны ростуть.*

**НА НЕТ.** Дашчэнту (з'есці, знішчыць, страціць). *Жукы з'їілы сусіцку бульбу на нет.*

**НА СМЭ́РТЬ.** 1. Моцна. *Гузікі попрышывалы до куфайки на смэрть.* 2. Поўнасцю, дашчэнту. *Гусы на смэрть выклёвалы моркву.*

**НА СО́ВЭСТІ.** Пра маральную адказнасць каго-небудзь за што-небудзь. *Наша быда зостанэцца на іх совэсті.*

**НА СО́ВЭСТЬ.** Добра. *Мужыкі стожка поставылы на совэсть.*

**НАТУРА́ЛЬНЫ ШКРЫПЭ́ЛЬ.** Вельмі худы, нездаровы (хто-небудзь). *Ото ростэ в іх дівчына – натуральны шкрыпэль.*

**НА́ДВОЕ БЫДА́.** Больш-менш нармальна, не вельмі дрэнна ў параўнанні з іншым. *Соткы позалывало, то гэто шчэ надвое быда.*

**НЕ́РВЫ РОСТА́ВЫТЫ.** Вельмі нервавацца, злавацца, сварыцца, крычаць. *А чого вы нервы роставылы, то ж всэ ідэ, як трэба?*

**НІ́МЦЫ В ХА́ТЫ.** Разлад, сварка ў сям'і. *У нас вжэ цилы тыджэнь німцы в хаты.*

**НІ́МЭЦ З НІ́МЦА.** Чалавек, які ні з кім не кантактуе, не можа сказаць слова, заўсёды сам у сабе. *Так тэсть завсюды був німэц з німца.*

**НОЛЬ ВНІМА́НІЯ.** Не зважаць на каго-небудзь, што-небудзь; абыякава адносіцца да каго-небудзь, чаго-небудзь. *Він до ii і так і сяк, а вона – ноль вніманія.*

**НОЛЬ ПО ФА́ЗЫ.** Не зважаць на каго-небудзь, што-небудзь; абыякава адносіцца да каго-небудзь, чаго-небудзь. *Скільки торочыла про гэту роботу, а він ноль по фазы і всё.*

**НОСЫ́ТЫ ХА́ТУ (НА ГОЛОВІ́, НА СОБІ́).** Гарэзаваць, свавольнічаць (звычайна ў адносінах да дзяцей). *Скільки можна хату на голові носыты?*

**НО́СА НЫ КАЗА́ТЫ.** Не з'яўляцца, не паказвацца. *Да вжэ місяц, як нывістка носа ны кажэ до нас.*

**НУ ТОЙ ШО.** Нічога страшнага. *Ну той шо, шо дошч помочыв сіно, высохнэ другы раз, хотя і почырніе.*

**НУТРО́М ЧУ́ТЫ.** Адчуваць што-небудзь. *Ох, нутром чую, шо за ніс ты всіх нас водыш!*

**НЫ В ГОЛОВІ́.** Не цікавіцца кім-небудзь, чым-небудзь. *Так, мні гэтэ діло було ны в голові.*

**НЫ В ОДНО́МУ ГЛАЗУ́.** Няп'яны, цвярозы. *Чымало выпылы, алэ ж вышлы на двір – ны в одному глазу.*

**НЫ ВЭ́ЛЬМЫ.** Без жадання рабіць што-небудзь, не мець жадання працаваць, слухаць. *Слухаты то слухае, алэ ж зробыты, як просять, то ны вэльмы.*

**НЫ ГРА́МА.** Нічога. *Снігу ны грама ны выпало на Роздво.*

**НЫ ДІ́ЛА НЫ РОБО́ТЫ.** 1. Няма як працаваць; немагчыма працаваць праз нешта, некага. *В свято ны діла ны роботы.* 2. Марна патрачаны час. *Дождж ідэ – і в нас ны діла ны роботы.*

**НЫ ДО КО́ЗЮБА.** Ні з кім не размаўляць, не адклікацца. *Посварылыса і тыпэр одын до одного ны до козюба.*

**НЫ ДОВЫДЫ́ (ПРЫВЫДЫ́) ГОСПО́ДЬ.** Выклічнік у значэнні "Не дай бог". *Ны довыды господь такого мужыка маты!*

**НЫ ДОХО́ДЫТЬ.** Не разумець. *Скільки ны торочы, серавно ны доходыть до гэтэі шчэкороті.*

**НЫ ДО́ЗУБА.** Моўчкі; не адклікацца, ні з кім не размаўляць. *А воны поміж собою всэ ны дозуба.*

**НЫ К ЧО́РТУ МА́ТЫРЫ.** 1. Дрэнны, нічогі, абы-які. *Кабачкы вырослы ны к чорту матыры.* 2. Дрэнна, абы-як. *Страмыну поставылы ны к чорту матыры, шо на покіт ны залісты.*

**НЫ МО́ЖНА ЗДОБРІ́ТЫ.** Не вытрываць, не сцярпець. *Од смуроду коло ямкы ны можна здобріты.*

**НЫ МЫ́ЛО.** Немагчыма; надакучыла, прыелася. *Ны мыло слухаты, шо нашыі людыскі брэшуть.*

**НЫ НА ГРАМ.** Ні на колькі. *Які був, таки і оставса, ны на грам ны помынявса.*

**НЫ ПО МНІ (ТОБІ́, ЙЙ, ЁМУ).** Не так, як хочацца, каб было. *Тырпіты ны можу, як робыцца ны по мні.*

**НЫ ПРОЙТЫ́ НЫ ПРОІ́ХАТЫ.** 1. Многа. Людэй *на сылі – ны пройты ны проіхаты.* 2. Наяўнасць перашкод. *Ох і бардак у вас у хаты, всэ пораскіданэ, шо ны пройты ны проіхаты.*

**НЫ ПЫРЫЛАМА́ТЫСА.** Не перапрацавацца. *Давай хуччій робы, думаю, шо ты шчэ ны пырыламавса.*

**НЫ СЛОВА НЫ ПОВСЛОВА.** Моўчкі; не адзывацца адзін да аднаго. *Як можна цилый божый дэнь разом буты, і ны слова ны повслова одын до одного?*

**НЫ СНОМ НЫ ДУ́ХОМ.** Не мець дачынення. *Я ны сном ны духом до того діла.*

**НЫ СРА́ЧКА ТО БОЛЯ́ЧКА.** Не тое, то другое; не адна бяда, то другая; што-небудзь новае (часцей у адносінах да здароўя). *А в тыбэ завсюды – ны срачка то болячка.*

**НЫ СТУ́КУ НЫ ГУ́КУ.** Ціха, спакойна. *Нішо в нашому хацно ны стуку ны гуку.*

**НЫ СТЫДА́ НЫ СО́ВЭСТІ.** У адносінах да бессаромнага чалавека. *От, тыпэр молодёж пошла, любуюцца на гочах, ны стыды ны совэсті.*

**НЫ ХВІР (ХВОР).** Не можаш (пра чалавека, які не хоча ці не можа працаваць). *Нывжэ ты ны хвір помогты гній выкідваты?*

**НЫГО́ДНАЯ НАТУ́РА.** Дрэнны чалавек (часцей у адносінах да дзяцей). *От жэ в нас ны хлопэц ростэ, а ныгодная натура.*

**НЫЖЫВЫ́М БУ́ТЫ.** Хварэць. *Кнур мо повдня ныжывым був, а потом окрыяв.*

**НЫКО́ГО НЫ ПРЫЗНАВА́ТЫ.** Быць фанабэрыстым, самаўпэўненым, з характарам. *Бач ты, хрышчэнык ныкого ны прызнае: ны малого, ны старого.*

**НЫМАВІ́СТЫ ДЭ.** 1. Вельмі далёка. *Мы в лісы булы ымавісты дэ, аж дэ Галіцыя.* 2. Невядома дзе. *Нымавісты дэ запропастылы значныка.*

**НЫМАВІ́СТЫ СКІ́ЛЬКИ.** Вельмі многа. *Накопалы бульбы на сотках нымавісты скільки!*

**НЫМАВІ́СТЫ ШО.** Абы-што; невядома што. *Нымавісты шо кажуть на сылі про вчірашне зборышчэ.*

**НЫМАВІ́СТЫ ЯКИ́Й.** Вельмі (прыгожы, добры, вялікі і г. д.). *Половыка выткалы нымавісты якого хорошого.*

**НЫМАЛАДУ́ СКІ́ЛЬКИ.** Вельмі многа. *Нымаладу скільки наросло слывок, шо з імы робыты?*

**НЫМАЛАДУ́ ШЧО (ШО).** Невядома што, абы-што. *Нымаладу шчо наробылы з тіста.*

**НЫМАЛАДУ́ ЯКИ́Й.** Вельмі (прыгожы, добры, вялікі і г. д.). *Обцасы нымаладу якиі высокыі, як можна на таких ходыты?*

**НЫМА́ ДЭ НО́СА ПОВЭРНУ́ТЫ.** Мала месца. *Хатка в іх малэнька, ныма дэ носа повырнуты.*

**НЫМА́ КОЛЫ́ НО́СА ПОВЭРНУ́ТЫ.** Не хапае, мала часу, няма часу. *Літом завсюды ныма колы носа повэрнуты.*

**НЫМА́ ЧОГО́ Й РОБЫ́ТЫ.** 1. Мала. *Да тут бульбы назбыралы – ныма чого й робыты.* 2. Хутка, проста што-небудзь рабіць. *Ты задачу рэшыв – ныма чого й робыты.*

**НЫМА́ ШО КАЗА́ТЫ.** У значэнні пабочнай канструкцыі са знач. "Сапраўды так, так яно". *Ныма й шо казаты, хацно нымавісты якэе вылыкэ за год склыпалы.*

**НЫЦ НЫ ВПУСТЫ́ТЫ.** Усюды паспяваць, усё рабіць. *Гэтая жоноччына ныц ны впустыть: як сіно, як ягоды, як грыбы.*

**НЫЦ НЫ ПРОПАДЭ́.** Усё даводзіць да ладу; усюды паспяваць, усё рабіць. *В іх ныц ны пропадэ, шо хозяева то хозяева.*

**НЫШЧО́ СОБІ́.** Прыгожы, добры, нармальны (хто-небудзь, што-небудзь). *А хліб нышчо собі получывса.*

**НЫЯ́КА СОБА́КА.** Ніхто. *Наварыла крупныку, то ж ныяка собака ны хочэ йісты.*

**НЫЯ́КА СОБА́КА НЫ ВО́ЗЬМЭ.** Нічога не здарыцца з кім-небудзь, чым-небудзь. *Ныяка собака гэты кропэц ны возьмэ, знов навылазыть.*

**НЭ́МЫМ КРЫ́КОМ (КРЫЧА́ТЫ).** Вельмі моцна, гучна (крычаць). *Діты нішо нэмым крыком крычать, мо шо зробылосо?*

**НЭ́ВЭСТЬ ШО.** 1. Абы-што. *Ны прычоску, а нэвэсть шо зробыла на голові, одны ковтуны.* 2. Невядома што. *Ны з того ны з сёго нэвэсть шо зробылосо з нашым дідом.*

## О

**ОБОБРА́ТЫ ДО НЫ́ТКИ.** Пакінуць без нічога. *Мужыка ніхто обобрав до нытки.*

**ОГНЁМ ГОРІ́ТЫ.** Быць з высокай тэмпературай цела. *Дытя под вэчор огнём стало горіты.*

**ОДНА́ НЫ́ГА.** Вельмі мала. *Бульбы в гэтом году – одна ныга.*

**ОДНЫ́М БІ́ГОМ.** Вельмі хутка. *Маты одным бігом пошла на роботу.*

**ОДНЫ́М СУ́ЗОМ.** Настырна. *Малэе одным сузом лізэ і лізэ до матэры.*

**ОПО́ШНІ КОНЭ́Ц ПРЫ́ЙДЭ.** Сурова пакараць. *Як ны послухаеш, то опошні конэц тобі прыйдэ!*

**ОПУСТЫ́ТЫСА ДО РУ́ЧКИ.** Не глядзець сябе, не клапаціцца пра сябе. *Быз жоноччыны наш сусід зусім опустывса до ручки.*

**ОТПРА́ВЫТЫСА В ХВОЙКИ́.** Памерці. *От тобі і на, такий молоды, а отправывса в хвойки.*

**ОТ ТОБІ І НА.** Выкарыстоўваецца як выклічнік са значэннем шкадавання. *Пололы-пололы, робылы-робылы – і от тобі і на, всэ дошчэнту вымокло.*

**ОТ ШАХ-МАХ І ГОТО́ВО.** Рабіць хутка і абы-як. *А ты ны дывыса на іх – от шах-мах і готово.*

**ОТЧЫПЫ́ТЫ ДУ́ШУ.** Пакінуць некага ў спакоі; адчапіцца. Выкарыстоўваецца як загад. *Слухай, отчыпы душу ты од мынэ.*

## П

**ПА́ЛЭЦ В РОТ НЫ КЛАДЫ́.** Фанабэрысты чалавек; чалавек, які ўмее трапна сказаць, умее даць адказ, дасціпны чалавек. *Ты его ны пырыпрэш, він – палэц в рот ны клады.*

**ПА́ЛЭЦ ОБ ПА́ЛЭЦ НЫ СТУ́КНУТЫ.** Нічога не рабіць. *Так дядына ж палэц об палэц ны стукнула за літо.*

**ПО ПЭ́РВЭЕ ЧЫСЛО́.** Моцна накрычаць, насварыцца, набіць і г. д. *Я тобі вжэ дам по пэрвэе чысло.*

**ПО СА́МУ СРА́КУ (ДУРНЫ́).** Вельмі (дурны, неразумны хто-небудзь). *Якжэш по саму сраку дурны, шо з его возьмэш.*

**ПО УША́М І́ЗДЫТЫ.** Маніць. *Хватыть тобі вжэ по людячым ушам іздыты.*

**ПО ХАТА́Х ХОДЫ́ТЫ.** Жабраваць, прасіць дапамогі. *Цилэ літо сыдять, ныц ны робять, а зымою по хатах ходять.*

**ПОД ДУ́ЛОМ (ПОД ПІСТАЛЕ́ТОМ) (НЫ СКА́ЖЭ, НЫ ПІ́ДЭ).** Нічога не сказаць. 1. *То ж под пісталетом ныц ны скажэ і ны прызнаецца, хто гэтэ вчвэрыв.* 2. Нічога не зрабіць. *Як ны старайса, а діты і под дулом ны підуть в той ліс.*

**ПОД ЧЫГУНА́ (ГОРШКА́).** Пад адну лінію (стрыгчы). *Обстрыглы дытэй под чыгуна.*

**ПОКА́ СУД ДА ДІ́ЛО.** Гаворыцца падчас перапынку, замяшання, паўзы. *Пока суд да діло, то мы всэ і вспіем зробыты.*

**ПОКРА́ЙНІ МІ́РЫ.** 1. Якраз, як трэба; добра, цудоўна. *Сення покрайні міры постаралыса, мало шо зосталосо.* 2. Добры, цудоўны. *Пшыныца покрайні міры тутэка выросла: высокая, товстая, густая.*

**ПО́КАТОМ ЛАЖЫ́ЦЦА.** Моцна смяяцца. *От іхных прыпевок всі покатом лажылыса.*

**ПРАМЦЭ́М СТА́ТЫ.** Не працаваць, нічога не рабіць. *Ну, якэй холеры ты цилы дэнь прамцэм стоіш?*

**ПРА́ВДЫ НЫ ДОБЫ́ТЫСА.** Не пачуць праўды, ісціны. *Скільки часу пройшло, тыпэр правды ны доб'есса.*

**ПРА́ВЫДНЫК НАШО́ВСА.** Выкарыстоўваецца з іроніяй у адносінах да нібыта справядлівых, правільных людзей. *Ой, ны заступайса, сыды да моўчы, а то правыднык нашовса.*

**ПРОТІ́НЬКАТЫ (ПРОТРЫ́НЬКАТЫ, ПРОСВЫСТА́ТЫ) ДЭНЬ.** Нічога не рабіць. *От нішо протінькалы цилы дэнь, а робота стоіть. Гэто ж трэба було протрынькаты в тому Піньску дэнь. Дэнь дэнюсэньки просвысталы в тому городі і нычого ны поспілы.*

**ПРОХО́ДУ НЫ ДАВА́ТЫ.** Хадзіць услед; чапляцца да каго-небудзь. *Хлопцы проходу ны дають тэі дівчынцы.*

**ПРО́ПАДОМ ПРОПА́СТЫ[1].** Знікнуць, зусім згінуць. *Мороз стукнув – і пропадом пропалы всії гурки.*

**ПРО́ПАДОМ ПРОПА́СТЫ[2].** Выкарыстоўваецца ў якасці праклёну. *Хай пропадом пропадуть гэтыі козляки, а ны я поіду по іх в такий холод.*

**ПРЫПЫКА́НЦА ДАВА́ТЫ.** 1. Вельмі хутка нешта рабіць. *Ну, мы і прыпыканца далы, так хутко бульбу выкопалы.* 2. Рабіць што-небудзь з імпэтам (моцна крычаць, доўга смяяцца, хораша спяваць і г. д.). *О, як нашы діты хорошэ танцують, о прыпыканца дають!*

**ПРЫ́СЫ НАСТА́ВЫТЫ.** Надуцца, пакрыўдзіцца. *Знов прысы свої наставыв, а мы ж правду сказалы.*

**ПТІ́ЧОГО МОЛОКА́ НЫ ХВАТА́Е.** Жыць багата, заможна. *Да в іх у хаты тыльки птічого молока ны хватае, вэльмо ж добрэ жывуть.*

**ПУ́ТАТЫСА ПОД НОГА́МЫ.** Перашкаджаць. *Діты путаюцца под ногамы, ныц ны дають зробыты.*

**ПУ́ТО ГОРО́ХОВЭ.** 1. Непрыгожа апрануты чалавек. *Нійку спадныцу оділа – на настояшчэ путо гороховэ похожа.* 2. Бесталковы, дурны чалавек. *Ты в гэтого пута горохова толку ны доб'есса.*

**ПЫТЭ́ЛЮ ОТСТА́ВЫТЫ.** Надуцца, пакрыўдзіцца. *Мо пытэлю свою отставыла, шо з хаты ны выходыть.*

**ПЫ́САНЫ (-АЯ) КРАСА́ВЭЦ (-ЫЦА).** Вельмі прыгожы хто-небудзь. *Зроду шчэ такого пысаного красавца ны бачыла.*

**ПЯ́ТКЫ СВЫРКА́ЮТЬ.** Хутка бегчы, уцякаць. *Так налякалы дытэй, шо в іх аж пяткы свыркають.*

## Р

**РА́ДЫ ДА́ТЫ.** Давесці да парадку, зрабіць, выканаць. *А мы ж рады ны можэм даты гэтому зіллю.*

**РА́КОМ СТА́ТЫ[1].** Быць упартым, перашкаджаць, не дазваляць нешта зрабіць. *Шо я токо ны робыла, а він раком став і всё.*

**РА́КОМ СТА́ТЫ[2].** Павінавацца. *Часом і пэрэд начальством раком трэба статы.*

**РАТУ́НКУ НЫМА́.** Немагчыма пазбавіцца ад каго-небудзь, чаго-небудзь. *Ратунку ымае од костыровы: всэ полэ затянула.*

**РА́ДЫ НЫМА́.** Немагчыма справіцца з кім-небудзь, чым-небудзь. *Рады ныма коло гэтого дытяты.*

**РОБО́ТА ДУ́РНЯ ШУКА́Е.** Пра чалавека, які ўвесь час нешта робіць. *Тобі ны сыдыцца, всэ робыш, алэ ж робота дурня шукае.*

**РОЖДА́Й СТРАНА́ РОДНА́Я.** Выклічнік са значэннем здзіўлення. *О-ёй, якиий жэ ты мурзаты, рождай страна родная!*

**РОЗНЫСТЫ́ ПО СЫЛІ́.** Распаўсюджваць інфармацыю. *Одын чоловік знав, і той ужэ розніс по сылі.*

**РО́ГОМ СТА́ТЫ.** Упарціцца, перашкаджаць, не дазваляць нешта зрабіць. *Рогом став і стоіть на своёму, ныкого ны слухае.*

**РУ́КЫ РОЗВЯЗА́ТЫ.** Вызваліцца, мець поўную свабоду дзеянняў. *Тая жоноччына хоть руки собі розвязала.*

**РЫ́БЫ НАЛОВЫ́ТЫ.** Мачыцца пад сябе. *Ото рыбы наловыв! Цилюсэнькі лыжок.*

**РЭ́ГОМ ХОДЫ́ТЫ.** Быць п'яным. *Дядько вжэ спозаранку по сылі рэгом ходыть.*

## С

**СВІТ НЫ БА́ЧЫВ.** 1. Вельмі (вялікі, прыгожы, цудоўны). *Якиі хорошыі трускавкы – світ ны бачыв!* 2. Многа. *Мшарів на островку насыпано шо світ ны бачыв!* 3. Выкарыстоўваецца ў якасці выклічніка, які перадае здзіўленне. *Світ ны бачыв, якый выдавса дынёчок!*

**СВІ́ТА БІ́ЛОГО НЫ ВІ́ДНО (БА́ЧНО).** 1. Цёмна. *На гулыцы так хутко стало світа білого ны бачно.* 2. Нічога не відаць. *За пылюкою світа білого ны відно.*

**СВІ́ЧКІ НЫ ПОСТА́ВЫТЫ.** Шумець, не супакойвацца; зрабіць нешта дрэннае. *Алэ ж ныдэ він свічкі ны поставыть, куда-ныбудь да влізэ.*

**СВОЮ́ ПРАВОТУ́ ПРА́ВЫТЫ.** Прытрымлівацца сваіх думак, даказваць, стаяць на сваім. *Ты тыко свою правоту правыш, другых ны слухаеш.*

**СВЯТЬ БО́ЖЭ.** 1. Больш-менш добра, нядрэнна. *Ішчэ свять божэ почыстыв корівніка.* 2. Добры, нядрэнны. *То в іі характер ішчэ свять божэ, а в ёго – ны дай божэ.*

**СЛО́ВА НЫ СКАЗА́ВШЫ.** Моўчкі. *Воны поіхалы дохаты тышком-нышком, слова ны сказавшы.*

**СЛО́ВА НЫ СКАЗА́ТЫ.** Пра крыўдлівага чалавека, які ўсё ўспрымае вельмі балюча. *Тыпэр нашым дітям слова ны сказаты, одразу зляцца, прысы наставляють.*

**СЛЮ́НЫ ВІ́ШАТЫ (ПОВІ́СЫТЫ).** Марыць, думаць пра нешта, некага; плакаць па кім-небудзь, чым-небудзь. *Шо ты по ёму так ужэ слюны вішаеш.*

**СМІХ БА́БУ КАЧА́Е.** Выкарыстоўваецца пры сумненні, што чалавек гаворыць праўду. *Ну, канечно, шо ты кажэш, сміх бабу качае?*

**СМІ́ШКІ СТРО́ІТЫ.** Кпіць, жартаваць з каго-небудзь, смяяцца. *Хвать вамыка смішкі строіты.*

**СОБА́ЧА ЖЫЗНЬ.** Дрэннае жыццё. *Ны дай Божэ такую жызнь, собача жызнь у іх.*

**СО́ПЛІ ЖОВА́ТЫ.** Перажываць, хваляваццa; быць у безвыходнай сітуацыі. *Мы тоді ны зналы шо робыты, всё соплі жовалы.*

**СО́ПЛІ РОСПУСКА́ТЫ.** Плакаць, перажываць, хваляваццa. *Чого ты по коту так соплі роспускаеш?*

**СПА́СУ НЫМА́.** Немагчыма з нечым справіцца, пазбавіцца, схавацца ад каго-небудзь, чаго-небудзь. *З самого рання спасу ныма од мошкары, жывцэм заідае.*

**СПОКО́Ю НЫМА́.** Трывожыцца, непакоіцца. *Ныма спокою мыні од гэтых дум.*

**СПУ́СКУ НЫМА́ (НЫ ДАВА́ТЫ).** Не пакідаць без пакарання якія-небудзь учынкі, дзеянні. *Спуску ныма нам ад нашэй матэры.*

**СТА́ВЫТЫ ПСІ́ХЫ (КАПРЫ́ЗЫ).** Капрызіць, дуцца. *А якэй холеры вы псіхы всэ ставытэ? Ты мні ны став капрызы, гэтэ ны поможэ, будэ по-мойму.*

**СТОЛЫ́ ЛАМА́ЮЦЦА.** Многа рознай ежы. *На Вылыконне трэба, шо б столы ламалыса.*

**СТОЯ́ТЫ НА СВОЁМУ.** Прытрымлівацца толькі сваёй думкі. *Хоть колка на голові чышы – стоіть на своёму і всё.*

**СТОЯ́ТЫ ХВОРІ́ТЫ.** 1. Нічога не рабіць. *Робота з-за того, шо ты стоіш хворіеш, ны робыцца.* 2. Стаяць. *Корову ны выгналы на пашу, то цилы дэнь стоіть хворіе в хліві.*

**СТРАШНІ́Е А́ТОМА.** Вельмі брудны, запэцканы. *Скыдай годэжу, вона в тыбэ страшніе атома.*

**СТРА́ШНЭ ДІ́ЛО.** 1. Выкарыстоўваецца як выклічнік для ўзмацнення значэння. *Страшнэ діло, як воны на прычыны побылыса!* 2. Вельмі; моцна. *Позаростало всэ – страшнэ діло, ны влізты в город.*

**СТЫДУ́ НЫМА́.** Не саромецца, не баяцца. *Стыду ныма тобі такэе баяты протів старых.*

**СТЫРЧКО́М СТОЯ́ТЫ.** Нічога не рабіць. *Цилусэнький дэнь стырчком простояв на тэі бульбы.*

**СТЭ́ЧЫ ДО ВСЁГО́.** Здатны, здольны. *Гэтыі діты стэчыі до всёго, до любэі роботы, всэ вміють.*

**СУХО́ТА ЁГО́ (ВАС) ВОЗЬМЫ́.** Выклічнік са значэннем шкадавання, а таксама з пажаданнем нядобрага. *Як мні опротівылы гэтыі куры, сухота іх возьмы!*

**СУХО́ТА ТЫ МОЯ́.** Выклічнік са значэннем шкадавання. *Внучок мій упав со слыньчыка, ох, сухота ты ж моя!*

**СЫБЭ́ (ОДНОГО́) ПРА́ВЫТЫ.** Думаць, гаварыць толькі пра самога сябе. *Брат ны про кого ны думае, тылькі одного сыбэ правыть.*

**СЫДІ́ТЫ ЗАДРА́ВШЫ НО́ГЫ.** Нічога не рабіць, гультаяваць. *Нэбысьто робочы дэнь, а просыділы задравшы ногы.*

**СЫДІ́ТЫ В СЫРЫ́Х ПЫЧО́НКАХ.** Надаядаць. *Ты вжэ в сырых пычонках сыдыш со своею машыною.*

**СЭ́ДЬМА СЫДІ́ТЫ.** Нічога не рабіць, гультаяваць. *Дошч ішов, то мы сэдьма дэнь сыділы, так нычого і ны зробылы.*

**СЭ́РЦЭ РА́ДУЕЦЦА.** Радавацца чаму-небудзь. *Сэрцэ радуецца, як бачу всіх дытэй.*

## Т

**ТІЛІВІ́ЗОР ПРА́ВЫТЫ.** Нічым не займацца, а толькі ўвесь час глядзець тэлевізар. *Ты ныц ны робыш, тыльки тілівізор правыш.*

**ТО́ЛКУ МА́ЛО.** Бескарысна, упустую, дарэмна; мала карысці. *Толку мало вжэ будэ з гэтый кылёвой капусты, вырваты іі.*

**ТО́ЛКУ НЫ ДОБЫ́ТЫСА.** Не пачуць праўды, ісціны. *Хто тутыка мутыть – толку ны добытыса.*

**ТРЭ́БА, ЯК МНІ ХВОРО́БА.** Нічога не патрэбна; нічым не цікавіцца. *Людям гэто трэба, як мні хвороба.*

**ТРЭ́БА, ЯК ТА́Я ХВОРОБА́ЧКА.** Выкарыстоўваецца, калі трэба сказаць, што нічога не патрэбна. *Ім гэтэ трэба, як тая хворобачка.*

**ТРЭ́ТІ РІД.** Людзі, якія без запрашэння прыходзяць паглядзець на вяселле ці іншае свята і на вуліцы чакаюць пачастунку. *Молодыі обязательно выходять до трэтёго ріду з гарілкою і закуссю.*

**ТЫ́ШКОМ-НЫ́ШКОМ.** Ціха (сядзець, рабіць). *Глянь, воны собі тышком-нышком і всю роботу поробылы.*

## У

**У БЛУД ЗВЫСТЫ́.** Накіраваць па дрэнным жыццёвым шляху. *Звыдуть у блуд хлопцы нашую дівчыну.*

**У ДВЭ́РЫ НЫ ВЛА́ЗЫТЫ.** Вельмі тоўсты хто-небудзь. *За год баба якая зробылаcа – в двэры ны влазыть.*

**У ШКО́ДУ ВЛІ́ЗТЫ.** Зрабіць нешта дрэннае, нашкодзіць. *Так і свырбыть ёму, абы шо б у шкоду влізты.*

**УСІ́М ДАВА́ТЫ ОТВЕ́Т.** Умець абараніць сябе, пастаяць за сябе. *Наша маты, як трэба, то всім дасть ответ.*

**УСТРО́ІТЫ ЖЫЗНЬ-МАЛІ́НУ.** Накрычаць, насварыцца; зрабіць жыццё невыносным. *Я ім ужэ встрою жызнь-маліну, ох і дам у косты.*

**У́ХОМ НЫ ВЫСТЫ́.** Не звяртаць увагі, не слухаць. *Кажэш, вучыш, а діты тыпэр і ухом ны выдуть.*

## Х

**ХАЙ ВОНО́ ЛЯ́СНЭ (ЗГОРЫ́ТЬ).** Выклічнік са значэннем абурэння, злосці, гневу; хай прападае. *Хай вона згорыть гэтая робота, шо ны дня спокою ныма!*

**ХВОРОБА́ЧКА ЁГО́ (ІІ́, ІХ) БЫРЫ́.** Няхай, хай сабе. *А хворобачка іі быры, тую бульбу, ныц з ею ны станэ.*

**ХВОРОБА́ЧКА ЁГО́ (ІІ́, ІХ) ЗНА́Е.** Невядома, ніхто не ведае. *Прыйдуть воны на прычыну чы не, хворобачка іх знае.*

**ХВОРОБА́ЧКА НЫ ВО́ЗЬМЭ.** Нічога з кім-небудзь, чым-небудзь не здарыцца. *Капуста ішчэ на полі постоіть, хворобачка іі ны возьмэ.*

**ХЛІБ ШКУ́РУ ПОД'ЙІ́В.** Раз'есціся, добра жыць. *То ж у іх хліб шкуру под'йів: воны ны знають, шо вжэ йісты, шо выкупляты.*

**ХОЛЯ́ВУ РОЗЯ́ВЫТЫ.** Моцна крычаць. *Ну і нашо, коб тыбэ спытаты, ты холяву свою розявыв?*

**ХОТЬ БЫ ХНЫ.** Не звяртаць увагі, не рэагаваць; усё роўна. *Мышэй в хаты розвылосо, а батьку – хоть бы хны, шо воны по столі бігають.*

**ХОТЬ СТЫЙ ХОТЬ ПА́ДАЙ.** Вельмі смешна, дасціпна; не да месца. *Малый як скажэ шо, то хоть стый хоть падай.*

**ХОТЬ ТЫ ЗАДАВЫ́СА.** Вельмі дрэнна. *Тыпэрыка мні – хоть ты задавыса, зусім нычого.*

**ХОТЬ ТЫ ЗУБА́МЫ ДЫРЫ́.** Вельмі зашмальцаванае, бруднае, вымазанае што-небудзь. *Годэжа послэ гэтэй фермы – хоть ты зубамы дыры, нычым ны одмыты.*

**ХОТЬ УБЫ́Й.** Выкарыстоўваецца пры нежаданні, немагчымасці нешта зрабіць. *Ты ёго хоть убый, кажы ны кажы, серавно свое торочыть.*

**ХО́ЛОД СОБА́ЧЫЙ.** Вельмі холадна. *Сёння на дворі, бы зымою, холод собачый.*

## Ц

**ЦИ́ЛА МЫ́СЫЯ.** Вельмі многа, шмат. *Сыстра напыкла цилу мысыю пончыкив.*

# Ч

**ЧОРТ (ХОЛЕ́РА) НЫ ВО́ЗЬМЭ.** Нічога не здарыцца. *Куры намокнуть, алэ ж холера іх ны возьмэ.*

**ЧОРТВІ́ДЬ ДЭ.** Вельмі далёка; невядома дзе. *Чортвідь дэ тыі гусы з гусюкамы, мо пропалы.*

**ЧОРТВІ́ДЬ СКІ́ЛЬКИ.** Вельмі многа. *На мою быду чортвідь скільки наросло ж тэй морквы.*

**ЧОРТВІ́ДЬ ЯКІ́.** Абы-які. *Тая хата чортвідь якая, навэтька за дарэмно ны трэба іі купляты.*

**ЧОРТВІ́ДЬ ШО.** Абы-што. *Чортвідь шо наробылы поросюки во дворі – всэ пэрэрылы.*

**ЧОРТВІ́ДЬ ЯК.** Абы-як. *Чортвідь як повсходыла бульба – ны обогнаты будэ.*

**ЧОРТМА́ТЭРЫ КУДА́ (КУДЫ́).** Далёка. *Посунулыса нідэ, мусытька, зашлы чортматэры куда.*

**ЧОРТМА́ТЭРЫ ЯК.** Абы-як. *Спышыш – людэй насмышыш, і получыцца чортматэры як.*

**ЧОРТМА́ТЭРЫ ЯКІ́.** Абы-які. *Чортматэры які ростэ гэты кабан – на місцы сыдыть і годэ.*

**ЧУТЬ СВІТ.** На досвітку, вельмі рана. *Чуть світ – і жонки в ягоды дэ в чорта ідуть.*

**ЧЫ МАВ БІ́ГАТЫ.** Выкарыстоўваецца як дакор, калі чалавек нічога не робіць. *Чы мав бігаты з хаты у хату, то ліпш з дытём посыды.*

**ЧЫ́СТЫ ДУШЭ́Ю Й ТІ́ЛОМ.** Не вінаваты. *Віруй бога, я чысты душэю й тілом.*

**ЧЭРНІ́Е А́ТОМА.** Вельмі брыдкі, запэцканы. *Твоя одэжа, рукі, усэ тіло вжэ чэрніе атома.*

**ЧЭ́МЭРНО Й МЛО́СНО.** Дрэнна. *Як пырытягну попругою, то будэ тобі чэмэрно й млосно.*

**ЧЭ́РТЫ МА́ЮТЬ.** Няма каго-небудзь, чаго-небудзь; прапаў, знік хто-небудзь, што-небудзь. *Чэрты вжэ мають гэтую моркву, вся пропала.*

**ЧЭ́РТЫ НО́СЯТЬ.** Доўга адсутнічаць, быць невядома дзе. *Дэ іх чэрты носять, як пошлы, так і пропалы?*

**ЧЭ́РТЫ НЫ БЫРУ́ТЬ.** Не прападае, не гіне што-небудзь. *Да гэту суволоч чэрты ны быруть.*

**ЧЭ́РТЫ НЫ ВО́ЗЬМУТЬ.** Нічога дрэннага не здарыцца. *Поправыцца кішка – чэрты іі ны возьмуть.*

**ШАЛТА́Й-БОЛТА́Й.** Абы-як. *Абы зробыты шалтай-болтай.*

**ШКУ́РКА (ПО́ПА) БУ́ДЭ ТРЫШЧА́ТЫ.** Выкарыстоўваецца, калі гаворыцца пра пакаранне; караць. *Ох, будэ шкурка твоя вэчэром трышчаты за тую шкоду.*

**ШКУ́РКА ГОРЫ́ТЬ (ТРЫШЧЫ́ТЬ).** Вельмі актыўны, жвавы, непаседлівы чалавек. *На гэтому хлопцу так шкурка і горыть.*

**ШО (ШЧО) Е ТО Е[1].** Змірэнне з тым, што здарылася; няхай будзе так; хай сабе, няхай. *Ну шо вжэ зробыш, шо е то е.*

**ШО (ШЧО) Е ТО Е[2].** Многа, багата. *А малыны в лісы шчо е то е.*

**ШО Б ВЫ́ЛУПЫВСА (-ЛЫСА).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць; выказванне нядобразычлівасці; пажаданне нядобрага. *Шо б вы вылупылыса, як згыдылы мні всёго загона!*

**ШО Б ДО ОСТА́ТНІЙ НЫ ДОЖЫ́В (-ЛЫ).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць; выказванне нядобразычлівасці; пажаданне нядобрага. *Кіт цыплюка задавыв, шо б ты до остатній ны дожыв!*

**ШО Б ТЫ (ВЫ) ГОЛОВО́Ю НАКЛА́В (-ЛЫ).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць, нядобразычлівасць, і ў якасці праклёну, пажадання нядобрага. *Шо б ты головою наклав, такэе ж вычвэрыты!*

**ШО Б ТЫ (ВЫ) ПРАМЦЭ́М СТАВ (-ЛЫ).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць; выказванне праклёну; пажаданне нядобрага. *Шо б ты прамцэм став, раз ны слухаеш матыру!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) РЭЗУ́ХА ВЗЯЛА́ (СКРУТЫ́ЛА).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць, і ў якасці праклёну, пажадання нядобрага. *Шо б вас рэзуха взяла, як вы мні надоілы, всёго города споганылы!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) ВЫ́ПАДОК (ВЫ́ПАДОЧОК) ЙІВ.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць. *Ны однэі ягодынки ныма, шо б тыбэ выпадочок йів, всэ выбралы!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) КАДУ́К (ЧЭ́РТЫ, ПРА́НЦЫ) УЗЯ́В (-ЛЫ́).** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць; выказванне нядобразычлівасці, пажаданне нядобрага. *Шо б тыбэ кадук узяв, знов дошч залывае, все погные! Надоілы своім гыргытаннем, шо б вас пранцы взялы!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) НЫШЧА́СЦЕ ЙІЛО.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць. *Шо б тыбэ нышчасце йіло, як можна було так выламаты плота!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) ОСТА́ТНЯЯ ВЗЯЛА́.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць, і ў якасці праклёну, пажадання нядобрага. *Шо б тыбэ остатняя взяла, як я гэтэ казала!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) СУХО́ТА ВЗЯЛА́.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць, гнеў. *Наробылы страшнэі шкоды, шо б вас сухота взяла!*

**ШО Б ТЫБЭ́ (ВАС) ЧЫСТЭ́Ц ПОБРА́В.** Выкарыстоўваецца як выклічнік, які перадае абурэнне, прыкрасць, злосць, гнеў, а таксама ў якасці праклёну, пажадання нядобрага. *Шо б чыстэц вас побрав, як вы выгрыблы всі трускавкы!*

**ШО В БО́ЧКУ.** Моцна (кашляць). *Дытя трэба лычыты чымнэбудь, бо кашляе вжэ шо в бочку.*

**ШО ВОШАКИ́.** Вельмі маленькія. *Трускавкы на горі зусім ны порослы – шо вошаки.*

**ШО МА́ТЫ ТО МА́ТЫ.** Багата, многа мець чаго-небудзь. *Гусэй воны шо мають то мають, ны полычыты.*

**ШО ОПІ́ЧОК.** Тоўсты чалавек; здаровы чалавек. *Жынывса – шо опічок став, вэльмо ж поправывса.*

**ШО ОСТО́ПОК.** Вельмі вялікі. *Кіт в'ïівса, шо остопок полэжвае.*

**ШО ЦІ́ВКА.** Тонкі, худы, слабы, кволы, нездаровы. *Буракы стырчать в тому зіллі шо цівкі.*

**ШО ТЫ НЫ ЗА Я.** Задавацца, выхваляцца, быць ганарыстым. *О, ты до ії ны подыйдэш, вона – шо ты ны за я.*

**ШО ШО́ВКОМ ШЫ́Е.** Добра, удала падманваць. *На кажному шагу вона шо шовком шые, ны можна слухаты гэту брэхню.*

**ШО́ТО НЫ ХВАТА́Е.** Бесталковы, неразумны, дурны. *У тыбэ точно шо-то ны хватае.*

**ШТЭ́ПСЭЛЬ С ТАРАПУ́НЬКОЮ.** Малы і вялікі. *Бачтэ, який штэпсэль с тарапунькою пойшов.*

**ШУКА́ТЫ БОЛЯ́ЧКУ (КЛО́ПОТУ) НА СВОЮ́ ГО́ЛОВУ.** Рабіць нехарошыя ўчынкі, нарывацца на непрыемнасці. *Мій брат так і шукае клопоту на свою голову.*

## Я

**Я ТАМ ЗНА́Ю.** Выкарыстоўваецца ў значэнні “не ведаю”. *Мо крыху збырэцца людэй, я там знаю.*

**ЯЗЫКО́М ЛЯ́ПАТЫ.** Гаварыць абы-што. *От абы языком ляпаты быс прычыны.*

**ЯЗЫ́К ХОДУНО́М ХО́ДЫТЬ.** Умець добра, прыгожа гаварыць; не сціхаць, не змаўкаць. *Бачно, як так, то мовчун з мовчуна, а коло дывок язык ходуном ходыть.*

**ЯК БАРА́Н ПО ГРА́ДУСНІКУ.** Не разумець, не разбірацца ў нечым; не ўмець рабіць што-небудзь. *Я в гэтый кныжцы розбыраюса як баран по градусніку.*

**ЯК БАЧ.** Хутка. *Скоч як бач на ферму, прыв'яжы корів.*

**ЯК ДУ́РЭНЬ НЫ ПОДУ́МАЕ, ТО ГЭ.** Не падумаўшы нешта зрабіць. *І як так можна було зробыты, от як дурэнь ны подумае, то гэ.*

**ЯК ЖА́БА МУЛЫ (НАБРА́ТЫСА́).** Моцна напіцца гарэлкі; быць п'яным. *О, знов набравса, як жаба мулы.*

**ЯК ЗДО́ЯНА КОРО́ВА (ХОДЫ́ТЫ).** Без працы. *Чого ты ходыш як здояна корова?*

**ЯК ПОДЖА́РАНЫ (БІ́ГТЫ).** Вельмі хутка. *Ох і насварылася на їх, побіглы як поджараныі.*

**ЯК ПОДЖА́РАНЫ (ВЫ́СКОЧЫТЫ).** Знянацку, раптоўна. *Ой людочкы, а шчо такэ робыцца, чого він выскочыв з клуні як поджараны?*

**ЯК СВЫННЯ́ АПІЛЬСІ́НОВ (НАБРА́ТЫСА).** Моцна напіцца гарэлкі; быць п'яным. *На доччыному высіллі всії сваты понабыралыса як свынні апільсінов.*

**ЯК ТА́Я МА́ПЧАНКА.** Недагледжаны, неакуратны чалавек. *Прыбырыса хорошэ, а то підэш на сыло як тая мапчанка.*

**ЯК УГОРІ́ЛЫ.** Вельмі хутка. *Як угорілая лытіла дітвора дохаты з тэі школы.*

**ЯКО́ГО СМУ́ТКА.** Выкарыстоўваецца ў якасці пытальнай часціцы са значэннем "навошта, нашто, для чаго" (крычыш, маўчыш...). *Якого смутка ты горлопаныш?*

**ЯКУ́ (ШО З) ПУТЭПУ́ХУ (-ОЮ) РОБЫ́ТЫ.** Выкарыстоўваецца, калі чалавек не хоча працаваць, адмаўляецца нешта рабіць. *Складэш вышэй, яку путэпуху будэш робытымэш цилы дэнь.*

**ЯКЭ́Й ХОЛЕ́РЫ.** Выкарыстоўваецца ў якасці пытальнай часціцы са значэннем "навошта, нашто, для чаго" (крычыш, маўчыш...). *Якэй холеры ты туда пошов?*

# ЖЫВОЕ СЛОВА ФЯДОРСКАЙ ГАВОРКІ
## (лексічныя асаблівасці гаворкі)

### А

**АБЦЭ́НЬКЫ,** мн. Абцугі. *Гвоздя абцэнькамы выймы.*

**АКЫ́ША,** выкл. Выкарыстоўваецца для адгону курэй, куранят. *Акыша пошлы з города, всэ пырыгрыблы.*

**АЛЭ́,** часц. Так. *Алэ ж, він-таки зробыв, шо казав.*

**АЛЬБЫ́,** часц. 1. Толькі б. *Альбы зыму пэрэзымоваты, а там лэхчэ будэ.* 2. Надае значэнне непаўнацэннасці дзеянню, прадмету, паслабляе патрабаванні да дзеяння, прадмета. *Воны альбы зробылы, а там як будэ.*

**АНЫВЖЭ́Ш[1],** прысл. Абавязкова, вядома, безумоўна, канечне. *Ты прыйдэш на Роздво? Анывжэш прыду.*

**АНЫВЖЭ́Ш[2],** часц. Няўжо ж. *Анывжэш я буду протів іі нішо нычогэ казаты.*

**АРЫШТА́НТ,** м. Свавольнік, неслух. *Ах ты, арыштант малы! Ныц і ныкого ны слухае!*

### Б

**БА́БКА[1],** ж. Страва (запечаная нацёртая бульба з пасмажаным салам і цыбуляй). *Сёння на вычэру будэ бабка.*

**БА́БКА[2],** ж. Бабуля. *У бабкы своей спытай, вона всэ роскажэ.*

**БА́БКА[3],** ж. Грыб, падбярозавік. *А бабок наросло на канавах под бэрозамы! Хоть ты косою косы.*

**БА́БКА[4],** ж. Прылада для кляпання касы. *Косу бабкою наточы.*

**БАВУ́К,** м. Завялены свіны страўнік, папярэдне напханы мясам з прыправамі. *Злізь на покіт, одріж кусок бавука, остатні хай на Паску будэ.*

**БАДЫ́ЛЛЕ,** н. Сцябліны раслін. *Якэ хорошэ бадылле в бульбы!*

**БАЛІ́Я,** ж. Металічная пасудзіна для мыцця чаго-небудзь. *Возьмы балію, налый воды, хай гріецца.*

**БА́ЛО,** прысл. Даўно, калісьці. *Бало батьки жыныха шукалы.*

**БА́НКА,** ж. 1. Слоік, шкляная пасудзіна. *Банки знымы з покота.* 2. Кансерваваныя прыпасы. *То вжэ і банок вы наробылы за літо!*

**БАСО́ТА,** ж. ласк. Дзеці. *Ох і наробыла ж делов гэтая басота!*

**БАТУ́Г,** м. Пуга; драўляная палка, якая выкарыстоўваецца ў якасці пугі. *Поіхалы, а батуга по дорозы выламнэм.*

**БА́ЯТЫ,** незак. 1. Гаварыць, казаць. *На сылі баялы про гэтых людэй.* 2. Прыгожа гаварыць. *Уміеш ты баяты.*

**БІБ,** м. 1. Фасоля. *Бібу насады багато, то ж зыма пырымэлэ.* 2. Боб. *Біб, як і горіх, можна зэлэны йісты.*

**БІ́ГАТЫ,** незак. У адносінах да перыяду палавой актыўнасці ў кароў. *Наша корова бігае, бігае, а ныяк ны покрыецца.*

**БІ́ЛЫЙ,** у знач. наз. Белы грыб. *А в нас за хлівом білых тьма-тьмущая наросла.*

**БІТО́НЧЫК,** м. Металічная або пластмасавая пасудзіна цыліндрычнай формы з накрыўкай. *Бітончык молока трэба в молочарню занысты, бо ж пропадэ.*

**БЛЯ́ХА,** ж. Спецыяльная форма для выпечкі чаго-небудзь; процвень. *На бляху высып грыбы, хай сушацца.*

**БОВТУ́Н,** м. Ненайгранае яйка, што сапсавалася пры наседжванні курай. *Под гэтою курою одны бовтуны.*

**БОЛЯ́ЧКА[1],** ж. Прышч. *На морді знов нійкая болячка выскочыла.*

**БОЛЯ́ЧКА[2],** ж. Хвароба, хворае месца. *В гэтого чоловіка вічно всэ ны так, одны болячки.*

**БО́РНА,** ж. Прыбіральня, тое, што і **УБО́РНАЯ**. *Борну трэба трохы прыбраты, вычыстыты.*

**БРАКОВА́ТЫ,** незак. Не хапаць. *Тобі завсюды бракуе поля.*

**БРАТКИ́,** мн. Фіялка трохколерная, якая расце ў полі. *Раньшэ попоносылы братки мышкамы, попоздавалы ганучныку, грошы за їх малы.*

**БРА́ТЫ,** незак. Збіраць ягады. *Тутыка браты можна, я вжэ дві набырухы набрала ягід.*

**БРА́ТЫСА,** незак. Сварыцца, папракаць каго-небудзь. *От як він коло ії бырэцца, всэ пылыть і пылыть нызавішчо.*

**БУ́БА,** ж. дзіц. Ягады. *На, внучэнько мій, поїш смачнэі бубы.*

**БУГАІ́СКО,** м. Дзяцюк-падлетак. *Трэба, шо б поміг, такы бугаіско.*

**БУ́ДКА,** ж. Драўляная невялікая пабудова для гаспадарчых патрэб. *Торф знысэм у будку, ныц з ім там ны станэ.*

**БУ́ЛЫН,** м. груб. Дзяцюк-падлетак. *Булын який вырос, а робыты ныяк ны хочэ.*

**БУ́РКАЛО[1],** аг. Чалавек, які ўвесь час нечым незадаволены. *Скільки гэтэ буркало будэ буркаты на всіх.*

**БУ́РКАЛО[2],** н. 1. Дзіцячая цацка: невялікая костка з прасунутай праз яе ніткай, пры нацягванні і адпусканні якой атрымліваўся гук. *Кістку на нытку чы на выровку наныжы і будэ тобі буркало.* 2. Прыстасаванне з прадзетай праз бульбіну ніткай, якое прымацоўваецца да акна і выкарыстоўваецца дзецьмі для палохання людзей. *Мы буркало людям под вокнамы ставым, то буває так налякаем, шо самы пырыжываем.*

**БУ́СЬКИВ ГРЫ́Б,** м. Порхаўка. *Як пачурыцы збыраеш, то і буськовы грыбы е, а воны ж білыі, так і обманьваесса.*

**БУ́СЬКО,** м. Бусел. *Мусытька, бусько гужа в город кынув.*

**БУ́СЯТЫ,** незак. Цалаваць. *Як малы хорошэ бусяецца з бабою.*

**БУ́ТЭЛЬ,** м. Вялікая бутэлька. *Цилы бутэль вына получывса з нашого выноградa.*

**БУХА́НКА,** ж. Чорны хлеб. *Купы в магазіны дві буханкі.*

**БУХЫ́КАТЫ,** незак. Кашляць (часцей да дзяцей). *Літо на дворі, а вы бухыкаетэ.*

**БУШОВА́ТЫ,** незак. Шаліць, буяніць. *Діты зновыка бушують.*

**БУ́ДЭКА,** буд. Будзе. *Мо шо й будэка з гэтого тылюка.*

**БУ́РЫТЫ,** незак. Пра надвор'е з бурай, моцным ветрам. *Бурыть повдня, мо на дошч набурыць.*

**БУ́ТЫ,** незак. Быць. *Справнійшэю трэба буты, а то вітёр здуе.*

**БЫ,** злуч. Быццам, нібыта. *Ты встав і бы ны жывы.*

**БЫ́ЛЛЕ,** н. Сцябло. *Былле в бульбы дохолеры хорошэ ростэ.*

**БЫЛО́,** н. Спінка жалезнага ложка. *Было в лыжку вэльмы ж высокэе – ныяк ны пэрэлізэш.*

**БЫРЭ́М'Е,** н. Бярэмя. *Чымалэ бырэм'е дров прынысы в піч.*

**БЭ́ЖЫКИ,** мн. Вошы. *Мусытька, бэжыки напалы на мою голову.*

**БЭЗУРО́КУ,** прысл. На шчасце, на радасць. *Бэзуроку влітюса добра бульба вродыла.*

**БЭ́РВА,** ж. Драўляная кладка цераз вузкую рэчку ці канаву. *Ны спышы, осторожно іды по бэрвы, то ішчэ впадэш.*

**БЭЦ-БЭЦ-БЭЦ,** выкл. Вокліч, зварот да каровы, цяля. *Бэц-бэц-бэц, ідынно сюда, пошла в хлів.*

**БЭ́ЦЬКА,** ж. Памянш.-ласкальная назва каровы, цяля. *Во і нашу бэцьку прыгналы з пашы.*

## В

**ВА́ВА,** ж. дзіц. 1. Хвароба. *У матэры твоеі страшна вава.* 2. Ранка. *Ох і вава ж у тыбэ вылыка ж.*

**ВА́ЖКО,** прысл. Цяжка. *Бульбу вручную важко копаты.*

**ВА́ЖКИЙ,** прым. Цяжкі. *Няка важка сумка, мо камні тамэка.*

**ВАЗО́Н,** м. Пакаёвая расліна, кветка. *У іх чымало вазонов ростэ.*

**ВАЛЕ́ТІКОМ,** прысл. Спаць галовамі ў розныя канцы ложка. *На лыжку мы малымы завсюды валетіком спалы: коёк в хаты мало було.*

**ВАЛЬЦОВА́ТЫ,** незак. 1. Добра што-небудзь рабіць. *Хутко батько вальцуе коло дров.* 2. Ісці. *О, як вальцуе дохаты – одным бігом!*

**ВАРАКУ́ЗА,** аг. Неспакойны чалавек; чалавек, які хныкае, плача (звычайна дзіця). *Варакуза на вэчор знов варакузыцца, спаты ныяк ны можна покласты.*

**ВАРАКУ́ЗЫЦЦА,** незак. Плакаць, хныкаць без прычыны (звычайна да дзіцяці). *Малэ варакузыцца, мо спаты трэ його класты.*

**ВВОСЕНІ́,** прысл. Восенню. *Ввосені, можэ, одну корову здамо, бо сіна ны хватыть.*

**ВГЛЕ́ДЫТЫ**[1], зак. Дагледзець, паклапаціцца аб чым-небудзь, акружыць увагай. *Бачыш, добрэ вгледылы, то всі качуки выproслы.*

**ВГЛЕ́ДЫТЫ**[2], зак. Убачыць. *Шо ж ты там такэе вгледыла?*

**ВЗНАЧКЫ́,** прысл. Уручную, пазначаючы радкі (садзіць). *Бульбу посадылы взначкы, так вона скорій взыйдэ.*

**ВЗМУТНІ́ТЫ,** зак. Сапсавацца; стаць мутным, непразрыстым (у дачыненні да вадкага). *Всі банки з гуркамы, шо ото ныдавно поставылы, ураз взмутнілы.*

**ВІК,** прысл. Заўсёды. *Вік баба на коньці садыть гарбузы і кабачки.*

**ВІН,** м. Займеннік "ён". *Він у нас ныяк ны пырыробывса.*

**ВКОТЫ́ТЫ,** зак. Пакараць, набіць. *Я тобі зарэзка так вкотю, шо жыты ны захочэцца.*

**ВОБЛІ́ПКУ,** прысл. Вельмі шчыльна прылягаючы да цела (пра вопратку). *Свэдэр тобі зовсім ніяк воблiпку.*

**ВО́БРАНЫЙ,** прым. Прыгожа, па-святочнаму апрануты. *Всі діты булы вобраныі, шо ляльки.*

**ВОБРА́ТЫСА,** зак. Прыгожа апрануцца. *Дывкы вобралыса і повальцовалы на сыло.*

**ВО́ВЧЫІ Я́ГОДЫ,** мн. Любыя ядавітыя ягады. *Вовчыі ягоды ны трэба йісты, бо отравысса.*

**ВО́ЙСКО,** н. Армія. *Чырыз год на літо хлопэц в войско підэ.*

**ВОКО́ЛА,** прысл. Вакол. *Вокола хаты посадым гіоргіну.*

**ВО́ЛА,** мн. Валлё, пашыраная частка стрававода ў птушак. *Да в гэтых качок ужэ вола трышчать од йіды.*

**ВОЛОЧЫ́ТЫ,** незак. Баранаваць. *Бульбу трэба скорій волочыты.*

**ВОНЬТО́,** часц. Вось там. *Воньто лобыны лыжать.*

**ВОХКОВА́ТЫЙ,** прым. Сыраваты, трошкі вільготны. *Сіно добрэ ны высохло, шчэ вохковатэ.*

**ВО́ХКЫЙ,** прым. Сыры, вільготны. *Годэжа дэнь высіла і ны высохла, вохкая.*

**ВПРАГТЫ,** зак. 1. Набіць. *За гэту шкоду батько тобі впражэ то впражэ.* 2. Насварыцца. *Прыбырай скорій, а то баба впражэ.*

**ВПРІ́ТЫ,** зак. Добра зварыцца. *Куття в пічы вэльмо добрэ впріла.*

**ВПЭРО́Д,** прысл. 1. Спачатку. *Впэрод бадылле трэба скосыты, а потом трасты бульбу.* 2. Раней. *Впэрод люды жылы ны так, як тыпэра.*

**ВРОБЫ́ТЫСА,** зак. Вымазацца. *Чы ж так вжэ ж вробытыса!*

**ВРЫ́ГАТЫСА,** зак. Моцна, ікаючы, плакаць. *Доча вэльмо ж росплакаласа, аж врыгаласа.*

**ВСКЛА́Д,** у знач. прысл. Спосаб арання зямлі ад сярэдзіны да краёў. *Добрэ, рівно всклад згоралы.*

**ВСЮНІ́ЧНЯ,** ж. 1. Ноч на Вялікдзень. *Вся молодёж на всюнічну поіхала.* 2. Бяссонная ноч. *Тыпэрыка мні будэ всюнічная, бо малый рыхтык вдэнь выспавса.*

**ВТО́ПЛЭНЫК,** м. Чалавек, які ўтапіўся. *Втоплэныка тылькі вчора знайшлы в канавы.*

**ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ-ВУ́ЛІ** і **ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ,** выкл. Зварот, падзыванне качак. *Вулі-вулі-вулі, вуль-вуль-вуль, ідітэ пойіштэ.*

**ВЧІ́РАШНІ,** прым. Учарашні. *Вчірашню йіду ныяка собака ны хочэ йісты, давай свіжэ.*

**ВЫБЫВА́ТЫ,** незак. Вышываць спецыяльнай іголкай дываны, ручнікі і інш. *Мы кэдысь багато выбывалы коврів, двацдать годов назад воны ж модныі булы.*

**ВЫ́ВАЛЯТЫ,** зак. Вымазаць. *Цацки выволялы в пыску.*

**ВЫГО́ДА,** у знач. прысл. Добра. *От вам выгода, сонцэ гріэ, тыпло.*

**ВЫДЕ́ЛВАЦЦА,** незак. Задавацца. *Вона выделваецца більш, чым трэба.*

**ВЫ́ДЛО,** прыназ. 1. У параўнанні з. *Выдло того году бульбы тыпэр дохолеры.* 2. Каля. *Выдло его вона ны глядыцца.*

**ВЫЗ,** прын. Паўз. *Выз пліт хміль скрізь наріс, ны выкорчоваты его.*

**ВЫЙІДА́ТЫ,** незак. Есці толькі смачнае. *То ж воны выйідають всэ з магазіна, одны лагодкы.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАННЕ,** н. Дрэнныя паводзіны, непаслухмянасць; фанабэрыстасць. *Мні надоіло гэтэе выкабэльванне.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАЦЦА,** незак. Паводзіць сябе не так, як трэба, з фанабэрыстасцю. *Ты выкабэльваешса – то скоро довыкабэльваешса.*

**ВЫКРУНТА́СЫ,** мн. Свавольства; своеасаблівыя дзеянні. *Замучыв ты мынэ своімы выкрунтасамы.*

**ВЫКУПЛЯ́ТЫ,** зак. Купляць нешта незвычайнае, дарагое, смачнае. *Чы ж так малому всэ, шо ны захочэ, выкупляты – розбэстытэ его.*

**ВЫЛКИ́,** мн. Вілы. *Сіно можна і вылкамы подгрыбты.*

**ВЫ́ЛУПЫТЫСА,** зак. Загінуць, прапасці, памерці. *Цыплюки попалы под дошч – і всі до одного вылупылыса.*

**ВЫЛЫ́ДЯРНЫ,** прым. Вельмі вялікі. *Капуста вылыдярная поросла, шо ны подняты.*

**ВЫЛЫКДУ́Р,** м. Дарослы, але неразумны чалавек (звычайна да падлеткаў). *Школу закончыв вылыкдур, а в голові вітёр свышчэ.*

**ВЫЛЫ́КОННЕ,** н. Вялікдзень. *Раньшэ бавука робылы і дыржалы его на Вылыконне.*

**ВЫ́ПЭЦЯТЫ,** зак. 1. Вымазаць. *Всіі сукнынкы выпэцялы граззёю.* 2. Выкласці, патраціць. *Всю краску выпэцялы на гэтыі двэрца, а можна було і гокна покрасыты.*

**ВЫРАЧКОВА́ТЫЙ,** прым. З вялікімі вачыма. *Сын в батька вылыты: гэть вырачковатый.*

**ВЫ́РАЧЫТЫ,** зак. Вельмі раскрыць вочы. *Ны вырачвай вочы, так воно получылоса.*

**ВЫ́РОБЫТЫСА,** зак. Вымазацца. *Шчэкороть в ягоды выробылаcа.*

**ВЫ́САДКИ,** мн. Пасаджаныя клубні морквы, бураков і інш. для атрымання насення. *Высадки подвязаты трэба, а то обсыплюцца.*

**ВЫСЯКА́ТЫ,** зак. Высмарквaць нос. *Высякай ніс, ны шморгай, а то вжэ ны мыло.*

**ВЫТІ́ПВАТЫ,** незак. Распускаць тканіну і г. д. *Нашэ радно зусім вытіпалосо – дыркамы підэ.*

**ВЫ́ЧАВЫТЫ,** зак. Выдавіць. *З антоновок мало сока вычавыцца.*

**ВЫ́ЧВЭРЫТЫ** і **ВЧВЭ́РЫТЫ,** зак. Зрабіць, учыніць нешта дрэннае. *Ох і вычвэрылы діты, всёй загін вытопталы.*

**ВЫ́ШКИ,** мн. Верхняя частка хлява пад дахам. *Трэ глянуты на вышках, мо тамэка вылкы лыжать.*

**ВЫШЭ́Й,** м. Сухая балотняя трава для насцілання ў хляве. *Поіду в Стыкаву выш'ю накосю.*

## Г

**ГА́ДКО,** прысл. Брыдка. *Гадко на тыбэ дывытыса, який ты став.*

**ГАЛАЙДА́,** аг. 1. Чалавек, які шмат гаворыць, прычым няпраўду. *Галайда, а ны чоловік, брэшэ і брэшэ.* 2. Шумлівыя, крыклівыя дзеці. *Ны слухай ты гэтую галайду.*

**ГАЛАЙДІ́ТЫ,** незак. 1. Шмат гаварыць. *Ны галайды, бо надоіло слухаты.* 2. Шумець. *Божэшки, скільки можна вжэ так галайдіты?*

**ГАЛЁКАТЫ,** незак. Выкарыстоўваецца ў адносінах да дзяцей. Бегаць, насіцца, актыўна праводзіць час. *Дітвора по гулыцы галёкае.*

**ГАЛЁЦЫ,** мн. Частка нагі ў жывёлаў (ад калена да сцягна). *Галёцы посіклы і наварылы холодцу.*

**ГАЛУШКИ́,** мн. Клёцкі. *Галушки вэльмо ж довго робыты, тыпэра, мусытька, іх ныхто і ны варыть.*

**ГАЛЫВУ́ДЫТЫ,** незак. Піць, гуляць, весела адпачываць, адзначаць нейкае свята. *После вісілля іщчэ цилу ныділю галывудылы.*

**ГА́МАТЫ,** незак. Есці (часцей да дзяцей). *Гамай-гамай – будэш вылыкий росты.*

**ГАНУ́ЧА,** ж. 1. Старое адзенне. *Ганучы трэба порізаты, змотаты в клубкы, баба натчэ половыків.* 2. Старая тканіна, ануча. *Возьмы шэрсцяну ганучу, ею добрэ мыты подлогу.*

**ГАНУ́ЧНЫК,** м. Чалавек, які займаецца збіраннем старога адзення,ануч. *Кэдысь ганучнык нам шарыкы прывозыв – во шчасце було.*

**ГА́НЫТЫ,** незак. 1. Праклінаць. *Я чыста і душэю і тілом, а мынэ так ганять.* 2. Моцна сварыцца. *Чы ж так вжэ ганыты гэтую дівчыну?* 3. Абгаворваць. *Ны трэба ганыты другых, бо в сыбэ можэ такэ буты.*

**ГАПЭ́ЛЬКА,** ж. Дзірка для гузіка, а таксама прышыты з тканіны, нітак, тонкай вяроўкі кручок для зашпільвання вопраткі. *Гузіка прышый да гапэльку зробы – ны будэш росхрыстаный.*

**ГАРБУЗЫ́ННЕ,** н. Гарбузовае націнне. *Гарбузынне поросло, шо аж на плоты позалазыло.*

**ГАРУ́НКИ,** мн. Карункі. *Радно спэрва вышывалы, а потом обвязвалы гарункамы.*

**ГА́ЧКА,** ж. Цяпка. *Гачкы трэба нагостpыты, а то ныяк ны гачкують, тупыі.*

**ГВОЗДІ́КА,** ж. Кветкі "Бархатцы". *Гвоздіка нійка малая поросла.*

**ГІДЫ́ТЫ,** незак. Мазаць, пэцкаць, псаваць. *За дэнь діты нагідылы в хаты, шо ны пройты.*

**ГІ́НЬШЫ,** займ. Іншы. *Гіньша банка взмутніла, а гіньша стоіть, чэрты іі ны быруть.*

**ГІ́РКА,** наз. Невялікае ўзвышша. *На гірцы ягіднік малы і всі ягоды, шо і булы, погорілы.*

**ГІ́РКИ,** прым. Горкі. *Гурки на загінчыку нійкиі гіркиі.*

**ГЛЫ́ЗЕВЫ,** прым. Недапечаны, збіты. *Тісто ны вдалосо, нійкиі глызевыі коржы получылыса.*

**ГЛЯДІ́ТЫ,** незак. Глядзець дзіця, клапаціцца, акружыць увагай, стварыць добры догляд. *Підэм на прычыну, покінэм дытя на бабу, хай глядыть.*

**ГНІЙ,** м. Гной. *Гній з хлыва трэба выкынуты, а то корова в клетку ны можэ зайты.*

**ГО́БРАЗ** і **О́БРАЗ,** м. Ікона. *На гобраза трэба хорошого, вышытого рушныка повісыты.*

**ГО́ДЭ,** прысл. Хопіць, даволі. *Годэ грыбты сіно, всі натомылыса, поідэм дохаты.*

**ГО́ЙДАНКА,** ж. Арэлі. *На яблыні гойданку зробылы, то внука цилы дэнь тамыка гойдаецца.*

**ГОЛОВСЬКО́,** н. Вялікая галава. *Бачно, якэе за літо головсько выросло.*

**ГОЛОПУ́З,** м. 1. Голае дзіця. *Голопуз шэйгае трохы ножкамы.* 2. Ласк. Малое дзіця. *Гэтый голопуз так быстро ростэ.*

**ГОЛЫ́ВА,** ж. Алей. *Раньшэ голыва в повлітровых пляшках продаваласа.*

**ГОМОНІ́ТЫ,** незак. 1. Абурацца, сварыцца. *Ны робы так, бо баба будэ гомоніты.* 2. Размаўляць. *Нішо жонки там трохы гомонять.*

**ГОНОРО́ВЫЙ,** прым. Поўны гонару; які выражае ўласную перавагу і годнасць; фанабэрысты. *До дзядэнэй дочкы так просто ны под'іхаты: гонорова – дай божэ.*

**ГО́НЬДЭ,** прысл. Тут. *Всі гоньдэ собралыса, коло шопы.*

**ГО́НЬДЭВО,** прысл. Менавіта тут. *Гоньдэво, в клуні, і копаныцы всі лыжать.*

**ГО́НЬДЭКА** і **ГО́НЬДЭЧКИ,** прысл. Тут. *Гоньдэчки можна іщчэ одного скопца зробыты.*

**ГО́НЬШЧО** і **ГО́НЬШО,** займ. Нешта; гэта; вось што. *Нам спырша гоньшчо трэба зробыты, а послэ нівошчо будэм думаты.*

**ГОРА́ТЫ,** незак. Араць. *Трэба полэ гораты, а то сюд-туд і май місяц наступыть.*

**ГОРЛОПА́НЫТЫ,** незак. Моцна крычаць. *То ж ны горлопаньтэ вжэ протыв іх: всэ ж выйшло добрэ.*

**ГОРОВА́ТЫ,** незак. Добра, не шкадуючы сябе, працаваць. *Наша маты всю жызню горуе і горуе, ны можэ сыдіты быз діла.*

**ГО́РЫНЬ,** м. Ніткі мулінэ. *Лыжыть у нас на покоту цилы ящчык горыня, гные собі: тыпэр жэ ныхто ны вышывае.*

**ГО́ЦАЛО,** аг. Непаседлівы чалавек (звычайна дзіця). *Гоцало всю хату пэрэвырнув, всее ёму трэба.*

**ГО́ЦАТЫ,** незак. Бегаць, насіцца, шумець. *Скільки можна в тэй хаты гоцаты гэтым дітям.*

**ГРУ́БА,** ж. Пакаёвая печ. *Мы зымою два раза топым грубу, бо холодновато.*

**ГРУДО́К,** м. Луг з невысокай зялёнай травой. *Куры на грудку за хлівом пасуцца.*

**ГРУ́ЗКО,** прысл. Гразка, топка. *Ты глянь, як в болоті грузко, вода по коліна стоіть.*

**ГРУ́ШКА,** ж. Дрэва груша; плод гэтага дрэва. *Грушка добрэ цвыла высною, то мо і грушкы будуть.*

**ГРЫ́МНУТЫСА,** зак. Упасці. *Дытя грымнулосо со стола.*

**ГРЭБІ́НКА,** ж. Прылада для збірання чарніц. *У нас дядько одын добрыі, лэгкыі, грэбінки робыть: ягоды добрэ набыраюцца і ны выпадають.*

**ГРЭ́БЛЯ,** ж. Дарога. *Як по грэблі йты, то довжій будэ в раза два.*

**ГУ́ГЛЫК,** м. Туга сабраныя і скручаныя ў пук валасы. *Позбырай свої пасмы в гуглык.*

**ГУГУ́КАЛО,** н. Горліца. *Знов гэтэ гугукало прылытіло, знов, мусытька, на быду будэ гугукаты.*

**ГУ́КАТЫ,** незак. Пастаянна напівацца. *Наш ужэ ніділю гукае, ны просынаецца.*

**ГУ́ЛЬКА,** ж. Шышка. *Ты бач, якую здоровэдярну гульку набыв.*

**ГУ́РБА,** ж. Куча. *Бульба покамысь лыжыть в гурбах.*

**ГУ́РІЯ,** ж. Вялікая гурба чаго-небудзь. *Добрая гурія насінкі получылаcа, хватыть посадыты коло хаты.*

**ГУ́СЭНЬ,** ж. Вусень; лічынка матыля, падобная на чарвяка. *Гусэнь напала на капусту – спасу ныма, всю з'їість.*

**ГУСЮ́К,** м. Гусяня. *Гусюкив од гэтэй гусі чымало вывылосо.*

**ГУ́ТАНКА,** ж. Арэлі. *Мо хватыть на тэй гутанцы гутатыса.*

**ГУ́ТАТЫСА,** незак. Катацца на арэлях. *Діты гутатыса хочуть, алэ ж гутанка порвалаcа.*

**ГУ́ЦАЛКИ,** мн. Танцы. *Як тылькі стымніло, так молодёж на гуцалки повалыла.*

**ГЫБЛЁВКА,** ж. Вясельны абрад частавання маладымі чужых, не запрошаных на мерапрыемства людзей. *Знов, мусытька, нашыі хлопцы на гыблёвку пошлы.*

**ГЫ́ДКО,** прысл. 1. Непрыемна. *Гыдко мні на всэ гэтэ дывытыса.* 2. Непрыбрана. *Гыдко на кухні, трэба прыбратыса.*

**ГЫДО́ТТЕ,** н. Нешта непрыемнае, непрыгожае. *Якэе ж в хаты гыдотте розвылы!*

**ГЫЛЬ-ГЫЛЬ-ГЫЛЬ** і **ГЫ́ЛЯ-ГЫ́ЛЯ-ГЫ́ЛЯ,** выкл. Зварот, падзыванне гусей. *Гыль-гыль-гыль, ідітэ вжэ на свое сыдало!*

**ГЫ́НЬЧЫ,** займ. Іншы. *Гыньчы дэнь всэ добрэ, гыньчы болыть – хоть задавыса.*

**ГЫ́НЯК,** прысл. Інакш. *Другого свэдра можна і ніяк гыняк звязаты.*

**ГЫРГЭТА́ТЫ,** незак. 1. Размаўляць. *Жонки нішо гыргэчуць поміж собою.* 2. Смяяцца. *Шо ж вы з дытяты гыргэчытэ?* 3. Выдаваць свае гукі (пра гусей, качак, індзюкоў). *Гусы зрання гыргэчуть вокола хаты, спаты ны дають.*

**ГЫ́ЧКА,** ж. Бацвінне. *Наріж гычкы кабану і качкам намышай.*

**ГЭ,** прысл. Гэтак, так. *Правільно, гэ трэба робыты.*

**ГЭ́ГНУТЫ,** зак. груб. Памерці. *Мало старых зосталосо, да і сусід наш вжэ гэгнув.*

**ГЭ́ДАК,** прысл. Так. *Я мусово зроблю гэдак, як воны.*

**ГЭ́ЛЬКИ** і **ГЭ́ЛЬКО,** ліч. Столькі, многа. *Гэльки папірівок нападало, шо страх. Нашо вам гэлько ягід?*

**ГЭ́ПНУТЫСА** і **ГО́ПНУТЫСА,** зак. Упасці. *Посковзнуласа коло самэй хаты, гэпнуласа спыною об зэмлю.*

**ГЭ́ТАКИ,** займ. Такі. *Гэтаки ж вжэ хорошы хлопэц, шо ны вірыцца.*

**ГЭ́ТТАКА,** прысл. Тут. *Діты ныкуда ны пошлы, гэттака грають.*

**ГЭТЬ.** 1. Займ. Такі, такая, такое, такія. *Косы в дівчіны мягкыі, гэть, як у матыры.* 2. Прысл. Гэтак, так. *Хату зробылы гэть, як у сусіда.*

**ГЭ́ЦЬКАТЫ,** незак. Часта ездзіць куды-небудзь. *Сусідка знов у Піньск гэцькала.*

**ГЭШЭ́ВТ,** м. Справа, адносіны, стасункі. *Вона мае з ім гэшэвт.*

**ГЭШЭВТОВА́ТЫ,** незак. Распараджацца. *А шо ій, вона тыльки і гэшэвтуе грошыма налево і направо.*

**ГЭ́ЦЯТЫ,** незак. Абы-як кідаць, класці. *Чы ж так в однэ місцэ гэцяты гэтэ сіно!*

## Д

**ДА,** злуч. У значэнні "і". *Давай на коню з'іздымо до бабы да посадым города.*

**ДАКО́Б ,** часц. Так. *Дакоб, я коровая спычу, алэ ж коб він удавса.*

**ДЗЫГЛЫНА́ТЫЙ,** прым. Тонкі, худы, нязграбны. *Бо буракы зіллем зарослы, то і дзыглынатыі.*

**ДЗЮНЬ-ДЗЮНЬ-ДЗЮНЬ** і **ДЗЮ́НЯ-ДЗЮ́НЯ-ДЗЮ́НЯ,** выкл. Зварот, падзыванне свіней. *Дзюнь-дзюнь-дзюнь, выходьтэ з хліва, йдітэ йісты зілле!*

**ДЗЮ́НЯ,** ж. дзіц. Свіння. *Пошлы дзюням йісты даваты, а то нэмым крыком крычать.*

**ДІ́ВКА,** ж. Нявеста. *То ж братова дівка пошла.*

**ДІ́ВЧЫНКА,** ж. неадабр. Непаслухмяная дзяўчына. *От жэ дівчынка! Так ныкого і ны послухала, зробыла по-своёму.*

**ДІ́ЛО,** н. 1. Справа. *А вам діло до іхнёго жыття?* 2. Праца. *Дошч лье шо з выдра, то і діло стоіть.*

**ДЛЮ́ПАЛО,** аг. Чалавек, які павольна працуе. *Зновыка длюпало адстае од усіх.*

**ДЛЮ́ПАТЫ**[1]**,** незак. Кляваць (пра птушак). *Куры трохы длюпають тую мішанку.*

**ДЛЮ́ПАТЫ**[2]**,** незак. Павольна нешта рабіць. *Шо ты длюпаеш коло тэі морквы, скурій трэба, шо б тыпэра кончыты іі гачковаты?*

**ДОВБЭ́НЯ** і **ДОВБЭ́НЬКА,** аг. Неразумны, някемлівы чалавек; дурань. *Довбэня нійки ростэ – і всэ.*

**ДОЁНКА,** ж. Вядро для даення каровы. *В доёнку всэ молоко ны влізло, трэба ішэ однэ выдро.*

**ДОПІ́РЫКА** і **ДОПІ́РО,** прысл. Толькі што, цяпер. *Допірыка воны тут булы.*

**ДОПЭ́ТРЫТЫ,** зак. Дадумацца, здагадацца. *Малы допэтрыв, шо соска ны тая.*

**ДОСТІ́ГНУТЫ,** зак. Дастаць, дабіцца чаго-небудзь. *Гэты хлопэц всёго достігнэ.*

**ДОТЛА́,** прысл. Поўнасцю. *Жукы дотла з'йілы бульбу.*

**ДОТЫНА́ТЫ,** незак. Патрабаваць, дапякаць, папракаць. *Шо ты од мынэ всэ гэтыі грошы дотынаеш?*

**ДОХО́ДЫТЫ,** незак. Патрабаваць, дапякаць. *Доходыш, доходыш, а воны всё ровно довг ны аддають.*

**ДОХОЛЕ́РЫ,** прысл. 1. Вельмі. *Дохолеры хороша нывістка в сусідкы.* 2. Многа, багата. *Жуків дохолеры завылосо на бульбы.*

**ДО́ЧА,** ж. ласк. Дачка. *Мні добрэ доча помогае, всэ робыть.*

**ДРАЖНЫ́ТЫ,** незак. 1. Абзываць. *Хлопцы-сусіды малого дражнять.* 2. Клікаць па мянушцы. *А як в сылі твою бабу дражнять?*

**ДРА́ПКА,** ж. Маленькая цяпка з некалькімі зубамі. *Цыбулю можна і драпкою пополоты.*

**ДРОТОВА́ТЫ,** незак. Уцягваць у лыч свінні кавалак дроту. *Свынню трэба дротоваты, бо вэльмо рые зэмлю.*

**ДРУЧО́К,** м. Кій. *Ох, возьмуно я дручка да надаю тобі.*

**ДРЫВІ́ТНІК,** м. Спецыяльнае месца для дроў. *Пошукай тычку в дрывітніку, мо туда хто кынув.*

**ДУ́БАР,** м. неадабр. Холад. *Дубар страшны на дворі, аж страшно выходыты.*

**ДУБО́ВЫЙ,** прым. Вельмі п'яны. *Мужыки после получкы всі дубовыі ходять.*

**ДУБЭ́Ц,** м. Тонкі прут для ка́ры, батог. *Вырыжсы дубца, а то ныма чым погоняты коня.*

**ДУ́ЛЬКА,** ж. Фіга. *Малому чытыры місяцы, а вжэ дульки крутыть.*

**ДУ́НДА,** ж. дзіц. Соска. *Такий вылыкий, а дунду за собою носыш.*

**ДУ́ПА,** ж. Попа. *От зарэзка дам тобі в дупу.*

**ДУ́ПЭЛЬ,** м. Попа. *Дупэль які в малого вырос.*

**ДУ́РБАЛО,** н. ласк. Звычайна з адценнем пяшчоты, ласкальнасці на адрас чалавека, які нешта не так зрабіў ці нешта не зразумеў. *Ны бійса, дурбало, я ны буду сварытыса.*

**ДУРНЫ́ЦЫ,** мн. Буякі. *У нас гэтыі дурныцы і ны быруть, бо очамріты од іх можна.*

**ДЫ́ВОШЧО,** часц. Дзіва што; так, безумоўна, няўжо ж не. *Така прычына, дывошчо всі діты поз'їжджаюцца.*

**ДЫВУ́ЛІСКА** і **ДЫВУ́ЛЯ,** ж. Вялікая дзяўчына, звычайна якая не хоча і не ўмее працаваць. *Вжэ такая дывуліска, а ныц ны вміе робыты.*

**ДЫВЫ́ТЫСА,** незак. Глядзець. *Скільки можна дывытыса гэтого тілівізора?*

**ДЫ́ЛО,** н. Вымя. *В гэтыі тылушкы дыло вылыкэе, мо і молока будэ багато даваты.*

**ДЫРКА́Ч,** м. Сцёрты венік. *Двора трэба дыркачом вымысты.*

**ДЫРКА́ВЫ,** прым. Дзіравы. *Мышкы з-под бульбы вжэ всі дыркавыі.*

**ДЫРНО́,** н. Дзёран. *Полэ за год затягнуло одным дырном, хоть ты зубамы дыры.*

**ДЫ́ЧКА,** ж. 1. Дзікія грушы. *Тыпэрыка тыльки дычка на тому хуторы ростэ.* 2. Маленькія грушы, якія гніюць, гнілушкі. *Дычкы падають і гнюють, становяцца рыжымы, во тоді воны смачныі.*

**ДЭ́РКА,** ж. Прылада для драння чаго-небудзь (бульбы, морквы буракоў і інш.). *На дэрку натры цыплюкам, гіндюкам і качкам кабачкив.*

**ДЭ́-ТО,** прысл. Дзесьці, недзе. *Дэ-то воно лыжыть і сміецца.*

**ДЭ́ШЧО,** займ. Што-небудзь, штосьці, нешта. *Дэшчо гудэ в стороні.*

**ДЯ́ЛКА,** ж. Надзел зямлі (звычайна засеяны буракамі). *Добру дялку тыпэрыка обробылы, ны то шо вчора.*

## Е

**Е́,** дзеясл. незак. Ёсць. *Чы е хто в гэтый хаты?*

**ЕРЫПЭ́НІТЫСА,** незак. Паводзіць сябе не так, як трэба; супраціўляцца. *Ны ерыпэньса, робы як трэба – і всэ получыцца.*

**Е́СЬЦЯ** і **Е́СЬЦЕКА, Е́СЬЦІКА,** дзеясл. Ёсць. *Ягоды в гэтому лісы есьця, можна браты.*

## Ё

**ЁЛКА,** ж. Сасна. *В ёлках масляки вжэ ны ростуть, грыбы прокідаюцца.*

**ЁЛКЫ-ПА́ЛКЫ,** выкл. З узмацняльным значэннем, а таксама са значэннем шкадавання. *От, ёлкы-палкы, ныц ны получаецца.*

**ЁРЗАТЫ,** незак. Не сядзець на месцы. *Ты довго шчэ будэш ёрзаты?*

**ЁРШЫК,** м. Акунь. *В гэтый канавы тилькі ёршыки ловяцца.*

## Ж

**ЖА́БСКЫЙ ГРЫБЫ́,** мн. Неядомыя грыбы. *У нас зонтікі считають жабскымі грыбамы і іх ны быруть.*

**ЖА́ЛО,** н. Джала. *Жало скорій выймы, а то рука опухнэ.*

**ЖЛУ́КТЫТЫ,** незак. Многа піць. *Кіт воду жлуктыть і жлуктыть.*

**ЖМАК,** м. Ахапак чаго-небудзь. *Прынысы з хліва жмак сіна.*

**ЖМОТ,** м. неадабр. Скупы чалавек, скнара. *Воны такиі люды, шо ныкому нычого ны дадуть – всі жмоты.*

**ЖМЫНДА́,** аг. Гаварлівы чалавек. *Дай божэ, які він жмында.*

**ЖМЫНДІ́ТЫ,** незак. 1. Гаварыць абы-што, пляткарыць. *Ой, ны жмынды ерунду всякую!* 2. Многа гаварыць. *Колы-нэбудь ты дожмындысса.* 3. Сварыцца. *Скільки вжэ можна на іі жмындіты?*

**ЖО́ВТЛЯК,** м. Пераспелы агурок. *Гурки попыроросталы, тыпэра одны жовтляки.*

**ЖОНО́ЧЧЫНА,** ж. 1. Жонка. *Моя жоноччына ныколы в ніділю ны робыть.* 2. Жанчына. *До нас нійка жоноччына заходыла.*

**ЖЫД,** м. Скупы чалавек. *Ны будь жыдом, трэба з усімы дылытыса, а нэ нно собі.*

**ЖЫДЫ́ВСКИ КУ́ЧКИ,** мн. Халодны перыяд надвор'я ў верасні перад бабіным летам. *Мусытька, жыдывски кучки наступылы, шо так холодно стало.*

**ЖЫ́ЖА,** ж. Вадкае ўгнаенне. *Мы гній на сотки ны повэзэм, польем полэ жыжою.*

**ЖЫ́ТКА,** ж. Дрэннае жыццё. *От жытка в іх собача.*

**ЖЫ́ТЭМЭ,** незак. Будучы час ад дзеяслова **ЖЫЦЬ**. *Дідок шчэ довго жытэмэ, онь як бігае.*

## З

**ЗАБОЖЫ́ТЫСА,** зак. Паклясціся. *Забожыса, што гэтэ ны казав.*

**ЗАБРУДО́ЧЧЭ,** н. Невядомае месца; невядома дзе. *Ходылы, ходылы по лісы і знов в нійкэ забрудоччэ попалы.*

**ЗАБЫВА́ТЫСА,** незак. Біцца; моцна сварыцца. *Сусіды сварацца, аж забываюцца.*

**ЗАБЫ́ТЫСА,** зак. Стукнуцца. *Мусытька, вэльмо ж забывса об двэры, шо аж всёй скрывывса.*

**ЗАВІ́ШЧО,** прысл. За што, па якой прычыне, чаму. *Завішчо вы іх так налякалы?*

**ЗАВОЗЫ́ТЫ,** незак. Вымазваць. *От завозылы годэжу, шо зубамы трэ оддыраты.*

**ЗАВСЮ́ДЫ,** прысл. Заўсёды. *Завсюды у нас в коньці мая засуха.*

**ЗА́ВТРІЯ,** прысл. Заўтра. *На завтрія свынням навару котёл гарбузыв і буракив.*

**ЗАВЭДЁНКА,** ж. Звычай. *То ж у нас такая завэдёнка: на другы дэнь Вылыконня ходыты на моглыца.*

**ЗАГІ́ДЬВАТЫ,** незак. Вымазваць. *Діты за дэнь загідьвають одэжу, шо хоть ты зубамы ії дыры.*

**ЗАГІ́Н,** м. Вузкая паласа ворнай зямлі. *На сотках нагоралы загінов, то тэ-се посадым.*

**ЗАГІ́НЬЧЫК,** м. Вельмі малы надзел ворнай зямлі. *Морквы і цыбулі насадым одын загіньчык.*

**ЗА́ГОРОДЬ,** ж. Агароджанае месца ў хляве, на вуліцы. *Зажэнітэ гэтую отару в загородь, хай там по траві ходять.*

**ЗАГЭ́ЦЬКАТЫ (-СА),** зак. Вымазаць, -цца. *Трускавкамы загэцькалы майкы, ны одмыты.*

**ЗАДІ́ТЫ,** зак. Зачапіць. *Бач, як тыбэ заділа моя правда.*

**ЗА́ІЧА КАПУ́СТА,** ж. Травяністая расліна, кісліца. *Як в лісы хочэцца пыты, то можна заячу капусту поісты.*

**ЗА́ЕДЬ,** ж. Насякомыя, якія кусаюцца (мошкі, камары, слепні і інш.). *Ныможна гачковаты: так гэта заедь заідае.*

**ЗА́ІД,** м. Герпес. *Пэрэд высіллем як на зло і заіды на губах повыскаквалы.*

**ЗАІДА́ТЫ,** незак. Кусаць (у адносінах да насякомых). *Мошкара заідае, ны дае гачковаты.*

**ЗАІ́ЧЫТЫ (-СА),** зак. Вымазаць (-цца). *Чы ж так ужэ заічытыса?*

**ЗАКЛЯ́КНУТЫ,** зак. Замерзнуць. *Страшнэ діло, як хлопэц заклякнув на морозы.*

**ЗАКОМА́НДОВАТЫ,** зак. Захацець, загадаць. *Діты закомандовалы купыты ім в Пінску якого гостынца.*

**ЗАКРУ́ЧАНКА** і **ЗАКРУ́ЧВАНКА,** ж. Вялікая цёплая хустка. *На поясныцу зав'яжы закручанку, шо б ны продуло.*

**ЗА́КУСЬ,** ж. Ежа, страва, якой закусваюць. *Закусь ны забудь взяты.*

**ЗАМО́ЧКА,** ж. Частаванне з нагоды нейкага свята. *Батько на ферму носыв замочку за внука.*

**ЗАМЫ́ЗЬГА,** аг. Чалавек, які не глядзіць сябе, увесь час вымазваецца. *Він завсюды був замызьгою.*

**ЗАМЫ́ЗЬГАНЫЙ,** дзеепрым. Вымазаны, запэцьканы. *У іх завсюды діты замызьганыі ходять, як тыі чэрты.*

**ЗА́НАВЫСКА** і **ЗАНАВІ́СКА,** ж. Фіранка. *Занавыски трэба на гокна повісыты, а то з гулыцы всэ відно.*

**ЗАПІ́Л,** м. Прыпол, ніжні пярэдні край вопраткі. *Грыбы ны було куды ложыты, то в запіл збыралы.*

**ЗАПНУ́ТЫ,** зак. Павесіць фіранкі ці нешта іншае, закрыць тканінай. *Запны окно, шо б ны свытыласа хата.*

**ЗАПНУ́ТЫСА,** зак. 1. Зашпіліцца, завязацца, добра апрануцца; накінуць на сябе што-небудзь. *Ты ж запныса, а то в таки холод ходыш наросхрыст.* 2. Завязаць фартух і інш. *Трэба запнутыса, бо всэ на тыбэ будэ лытіты.*

**ЗАПО́ІНЫ,** мн. Абрад сватання жаніха да нявесты. *Дядына чымало людэй позвала на запоіны.*

**ЗАПРОПАСТЫ́ЛЫ,** зак. Сапсаваць, знішчыць, згубіць. *Запропастылы такую хвайную доёнку.*

**ЗА́ПЫНКА,** ж. Фартух ці кавалак тканіны, які засцерагае ад забруджвання. *Зав'яжы запынку, а то ж обольесса і вымажэсса.*

**ЗАРОБЫ́ТЫ,** зак. Зрабіць брагу на гарэлку. *Трэ со слывок брагу заробыты, а то ж пропадають.*

**ЗАРОДЫ́ТЫ (-СА),** зак. 1. Нарадзіцца. *Хлопэц нійки слабоваты зародывса.* 2. Урадзіць. *Капуста, слава богу, на дыво добрая зародыласа.*

**ЗА́РЭ** і **ЗА́РЭКА, ЗА́РЭЗКІ,** прысл. Зараз, зараз жа, цяпер. *Зарэка добрэ жывэцца, всэ е, тыльки ны будь мушныком, робы, горуй.*

**ЗА́СІКА,** ж. Аддзел ў хляве, падвале, звычайна для бульбы, буракоў, морквы. *В лёху повныі засіки насыпалы бульбы, на зыму хватыть.*

**ЗАСКОРУ́ЗЛЫ,** дзеепрым. Вельмі брудны, засохлы ад гразі. *Куфайка од гразі вся заскорузлая.*

**ЗА́СТУП,** м. Ручная прылада працы для капання; рыдлёўка. *Возьмы заступа і ны мучайса.*

**ЗАТО́ВКА,** ж. Свіная тлушчавая сетка, якая знаходзіцца каля страўніка. *З затовки натопым жыру добры чыгун.*

**ЗАТЫНА́ТЫ,** незак. 1. Замінаць, перашкаджаць нешта рабіць. *Ны затынай нам буракы полоты.* 2. Пазбавіць магчымасці бачыць. *Ны затынай мні тілівізора.*

**ЗАХОДЫ́ТЫСА,** зак. 1. Ускіпець, занервавацца. *Чы ж так вжэ заходытыса, шо аж колотыцца.* 2. Моцна, доўга плакаць. *Дытя заходылосо, шо аж врыгалосо.* 3. Моцна нешта захацець. *Тыпэра діты як заходяцца купыты йім шо, то й боісса насупэрок і слова сказаты.*

**ЗАЧАВЫ́ТЫ,** зак. Забіць, задушыць. *Всі разом упалы на мынэ, шо чуть ны зачавылы.*

**ЗАШМАЛЬЦОВА́ТЫ,** зак. Вымазацца, вымазаць, загразніць. *Куфайку зашмальцовалы, шо ныяк ны одмываецца.*

**ЗА́ШЧІПКА** і **ЗАШЧІ́ПКА,** ж. Кручок. *Зашчіпку трэба прыбыты на ворота, а то отпала.*

**ЗАШЧЫПЫ́ТЫ,** зак. Закрыць рот, змоўкнуць. *Шо б тобі зашчыпыло, як нымыло слухаты гэту брыхню.*

**ЗАЯВЫ́ТЫСА,** зак. З'явіцца. *От жэ ныгодяшчы хлопчык, так і ны заявывса на бульбу.*

**ЗБАНО́К,** м. Высокая гліняная пасудзіна з ручкай і без ручкі. *Молоко кыслэ на слынчыку в збанку стоіть.*

**ЗБРЫ́ЖКА,** ж. Складка на адзежыне, матэрыяле. *Трэба, шо б тюль вісів збрыжкамы, то будэ хорошэ.*

**ЗБЭ́ЙДАТЫ**[1]**,** зак. Згубіць. *Гэта шчэкороть нідэ збэйдала всі ручки.*

**ЗБЭ́ЙДАТЫ**[2]**,** зак. Падбухторыць. *Усіх збэйдала, а сама ны прышла.*

**ЗДАЛЯ́,** прысл. Здалёку. *Здаля добрэ бачно, хто е хто.*

**ЗДОРОВЭ́ДЯРНЫ,** прым. 1. Вельмі вялікі. *Здоровэдярну хату построілы свояки дітям.* 2. Здаровы. *Дядько здоровэдярны, ёго ныяка путыпуха ны бырэ.*

**ЗДОРОВІ́ЙШЫ,** прым. Больш здаровы. *Ты здоровійша, то поможы заныcты мышка.*

**ЗДУ́ЖАТЫ,** зак. Адолець. *Хіба ты здужаеш повмысыі гэтого крупныку з'йісты.*

